—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
25
ВЕРАСНЯ
1992 г.
№ 39 (3657)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



# Сабраць рассеянае па свеце

Помнікаў дзеячам беларускай культуры ў нашай краіне крыху болей чым пальцаў на адной руцэ. Я вяду гаворку не пра мемарыяльныя шыльды, надмагіллі ці памятныя знакі, а пра помнікі паўнавартасныя. Тры ў Мінску — Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу; адзін у Полацку — Францішку Скарыне; Сымону Буднаму ў Нясвіжы, Янку Купалу ў Ляўках і адкрыты нядаўна помнік Уладзіміру Караткевічу ў Оршы. Вось, здаецца, і ўсё. Нядаўна гэты да крыўднага кароткі спіс (ці ж можна адлюстраваць тысячагадовую гісторыю беларускай культуры ў некалькіх бронзавых постацях?!) папоўніўся яшчэ адным, і, дарэчы, надзвычай удалым творам. Помнікам песняру старажытнай Беларусі-Літвы Адаму Міцкевічу. Калі быць вельмі дакладным, помнік ужо колькі месяцаў у Навагрудку стаяў, але 12 верасня адбылася афіцыйная цырымонія адкрыцця. У той дзень быў урачыста адкрыты і Дом-музей Адама Міцкевіча.

Упершыню скульптуру, якая стала помнікам, аматары мастацтва ўбачылі ў 1987 годзе. У тым годзе аўтар Валяр'ян Янушкевіч скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, і постаць Міцкевіча была ягонай дыпломнай работай. Прыгадваю, што ўсе, хто прысутнічаў на абароне дыпломаў аддзялення скульптуры, былі ў захапленні. Кіраўнік дыплома, рэцэнзент, члены Дзяржаўнай камісіі прызналі работу бездакорнай. Мне падалося, што так успрынялі скульптуру, ужо адлітую ў бронзе, і жыхары Навагрудка і госці свята.

А гасцей на свяце было багата: са сталіцы, Гародні, з бліжняга замежжа (Польшчы, Летувы). Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел міністр інфармацыі РБ А. Бутэвіч, міністр культуры Я. Вайтовіч, дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, намеснік міністра культуры РП М. Ягела, пасол Польшчы Э. Смулэк і многія іншыя. Погляд на Адама Міцкевіча як аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры, як на творцу, чый геній узгадаваны беларускай зямлёю і нашай нацыянальнай гісторыяй, у канцэптуальнай форме выказаў у сваёй прамове на адкрыцці помніка старшыня камісіі Вярхоўнага Савета РБ па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч.

(Працяг на стар. 4).



ВЫБІРАЕМ ГІМН

# НАДЗЕЯ ЁСЦЬ ЯШЧЭ...

Дарагая рэдакцыя! Дазвольце і мне ўмяшацца ў размову пра будучы гімн нашай Дзяржавы. Цалкам згодзен з тымі, хто ў абнародаваных (па радыё і ў друку) варыянтах гімна не бачыць. Пра новыя творы (іх чатыры) і гаварыць не мае сэнсу. Як патрыятычныя песні пэўную вартасць яны маюць, і, магчыма, будуць гучаць і нават спявацца. Але каб быць прынятым у якасці нацыянальнага гімна?.. Відаць, празмерна вялікае жаданне стаць аўтарам гімна перашкаджае дасягнуць мэты — стварыць выдатны верш і выдатную мелодыю. Занадта трапечацца — не тым трапятаннем — сэрца!.. Што датычыць даўніх, вядомых у народзе песень, вылучаных на конкурс,— то мая думка такая: геніяльная «Пагоня» мае баладны характар, яе вобразная сімволіка не спалучаецца з уяўленнем пра гімн, да таго ж не вызначаецца сілай і выразнасцю мелодыя. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» — слабаваты, «лабавы» тэкст і бедная мелодыя: нам, такой музычнай і спеўнай краіне, сорамна сёння задаволіцца гэтакім узроўнем. «Магутны Божа» — выдатная паэзія і добрая, глыбокая музыка, і гэты твор мог бы прэтэндаваць на статус гімна, калі б... Калі б не было ў нас мелодыі, сапраўды геніяльнай, можа, самай геніяльнай з усіх, што народжаны на беларускай зямлі, і адной з самых любімых у нашым народзе, ды і самых прызнаных у свеце. Я кажу пра мелодыю, якую стварыў выдатны сын гэтай зямлі, прадстаўнік старадаўняга беларускага роду Міхал Агінскі. У друку ўжо была—і не раз — выказана прапанова ўзяць за аснову для гімна менавіта гэту цудоўную, усенародна любімую мелодыю. І не трэба, дарагія людзі, шукаць нешта іншае, і не трэба мудрыць. Можа быць, і тэксту не давядзецца пісаць новага, бо... З год назад у Доме літаратара быў творчы вечар Алеся Жамойціна (вельмі таленавітага паэта — чытаў яго кнігу), і на гэтым вечары ён і яго сябра музыка Уладзімір Макарэвіч выканалі патрыятычную песню на мелодыю Агінскага. Песня была ўспрынята на «біс». Я ўзнавіў у памяці гэты верш Жамойціна, можа, недакладна, за што прашу прабачэння ў аўтара, і хацеў бы, каб «ЛіМ» надрукаваў яго. Нават калі ён і не будзе прыняты за тэкст гімна, то ва ўсякім разе — гэта сведчанне, што тут мы на вернай дарозе. Можа, і сам Жамойцін працуе яшчэ над сваім вершам, звяртаецца да яго — ён жыве дзесьці на Гродзеншчыне. Вось яго песня, якой я не запомніў.

**Ты даруй нам, родны Край,**
**Зямля, з бядой спазнаная!..**
**Павеў свабоды, вецер,**
**развявай!**
**А цалаваць бізун не станем**
**мы,**
**Павек рабамі мы не станем!**
**Годзе правіць баль**
**На братоў касцях!**
**Беларусь, паўстань!**
**Падымі свой сцяг!**
**Гэй, браты!**
**Ярмо душу пячэ,**
**Ярмо душу пячэ!**
**Надзея ёсць яшчэ;**
**Надзея ёсць яшчэ;**
**Надзея ёсць яшчэ!**
**Надзея ёсць!**

**Сілы знойдзем, родны Край,**
**Зямля дзядоў і прадзедаў!..**
**Браты, пра волю кожны**
**памятай:**
**Яна ад Бога людзям дадзена,**
**А без яе — душа канае.**
**Мы супынім боль**
**На братоў касцях.**
**Чуйце: кліча Край**
**Пад святы наш сцяг!**
**Гэй, браты!**
**Ярмо душу пячэ,**
**Ярмо душу пячэ!**
**Надзея ёсць яшчэ;**
**Надзея ёсць яшчэ;**
**Надзея ёсць яшчэ!**
**Надзея ёсць!**

І яшчэ: было б вельмі добра, каб гэты твор у выкананні якога-небудзь выдатнага спевака прагучаў колькі разоў па радыё, па тэле: хай людзі паслухаюць і скажуць сваю думку... Калі ласка, паклапаціцеся пра гэта, шаноўны міністр А. І. Бутэвіч. Справа надзвычайна важная!..

Р. ЛАГАЗІНСКІ.

г. Мінск.

# Кола Дзён

На мінулым тыдні ў Бішкеку прайшло першае пленарнае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі з удзелам Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі і Таджыкістана. Быў створаны савет асамблеі. Як падкрэслівалі яго ўдзельнікі, новая структура не з'яўляецца наддзяржаўнай і патрэбна толькі дзеля каардынацыі заканадаўчай дзейнасці парламентаў СНД. Але навошта патрэбны свайго роду выканаўчыя органы асамблеі са штаб-кватэрай у Санкт-Пецярбурзе? Беларускія дэпутаты, якія прымалі ўдзел у рабоце асамблеі, між іншым, звярнулі ўвагу журналістаў на сваёй прэс-канферэнцыі і на такую акалічнасць. Р. Хасбулатаў быў выбраны старшынёй савета асамблеі ў вузкім коле кіраўнікоў дэпутацый. Усе астатнія былі проста пастаўлены перад фактам «выбараў». Такое ўражанне, што адбываюцца спробы рэанімаваць старую ідэю аб пасадзе Генеральнага сакратара Садружнасці. А заадно—ідэю канфедэрацыі ці «абноўленага Саюза»...

**17 ВЕРАСНЯ**

На прэс-канферэнцыі «чарнобыльскай» камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі яе кіраўнік І. Смоляр заявіў, што дзяржаўная праграма ліквідацыі вынікаў катастрофы буксуе з-за недастатковага фінансавання. На яго думку, правапераемнікі былога саюзнага Мінатампрома павінны цалкам кампенсаваць страты, нанесеныя Беларусі Чарнобылем. Расія ўжо выплаціла два мільярды рублёў з абяцаных сямі. Але гэтага недастаткова.

**18 ВЕРАСНЯ**

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын падпісаў указ, згодна з якім павышаюцца цэны на нафту. Неўзабаве падаражаюць бензін, электраэнергія, ацяпленне, пластмаса, а таксама хлеб. Міжурадавае пагадненне Беларусі з Расіяй, паводле якога цэны на нафту, што паступае да нас, расійскі бок абавязаўся не павышаць да канца года, фармальна ніхто не адмяняў. Але надзея на тое, што пагадненне будзе выконвацца, слабая.

**19 ВЕРАСНЯ**

Завяршыўся візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча ў ФРГ, падчас якога ён прыняў удзел у міжнародным кангрэсе «Еўропа і свет на пераломе». Дарэчы, даклад С. Шушкевіча быў цэнтральным на кангрэсе. А завяршыўся ён выступленнем М. Гарбачова, які зноў адстойваў «сацыялістычны выбар».

**20 ВЕРАСНЯ**

На рэферэндуме ў Францыі 51 працэнт яго ўдзельнікаў выказаўся ў падтрымку стварэння аб'яднанай Еўропы (паводле пагаднення ў Маастрыхце). Вынік, што і казаць, неадназначны. Але варта ўспомніць выказванне вядомага палітыка аб тым, што дэмакратыя—найгоршая форма дзяржаўнага кіравання, за выключэннем усіх астатніх. Рэферэндум жа—неад'емная ад дэмакратыі працэдура.

**21 ВЕРАСНЯ**

Нацыянальны банк Беларусі адмяніў свабодны продаж валюты за рублі, які працягваўся ўсяго тыдзень. Цяпер, каб атрымаць валюту, трэба зноў прад'яўляць выязную візу.

У штаб-кватэры СНД у Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя арганізацый ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з краін Садружнасці.

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Новай Зеландыі на Беларусі Дж. Макгі ўручыў даверныя лісты першаму намесніку Старшыні ВС Беларусі В. Кузняцову.

**22 ВЕРАСНЯ**

На прэзідыуме Саўміна Беларусі пад старшынствам В. Кебіча разглядалася, сярод іншага, пытанне аб барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі, якія набылі ў рэспубліцы нечуваны размах. З дакладам па гэтым пытанні выступіў старшыня КДБ рэспублікі Э. Шыркоўскі.

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Каралеўства Нідэрланды на Беларусі С. ван Вілэм уручыў даверныя лісты Старшыні ВС Беларусі С. Шушкевічу.

Генеральная асамблея ААН выключыла з членаў арганізацыі Югаславію. Гэта беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі ААН. Цяпер, каб уступіць у яе, Югаславіі (у складзе Сербіі і Чарнагорыі) трэба падаць новую заяву.

**23 ВЕРАСНЯ**

Па выніках візіту ўрадавай дэлегацыі Турцыі на Беларусь у Мінску былі парафіраваны двухбаковыя пагадненні ў галіне адукацыі, навукі, культуры і спорту.

**24 ВЕРАСНЯ**

Пачалося ўрачыстае святкаванне 1000-годдзя хрысціянства на Беларусі.

У Мінску адкрыліся Дні балгарскай культуры. Дэлегацыю Балгарыі ўзначальвае прафесар З. Захарыеў—старшыня Фэдэрацыі дружбы і Фонду «Славяне».

# Нечаканасцей не будзе. Будзе пераймальнасць.

### З прэс-канферэнцыі Старшыні ВС Беларусі С. ШУШКЕВІЧА

Парадаксальны факт. Даведацца аб рэакцыі кіраўніцтва нашай рэспублікі на нядаўняе павышэнне цэн на нафту і нафтапрадукты ў Расіі журналісты змаглі толькі на прэс-канферэнцыі Старшыні беларускага парламента па выніках яго візіту ў Германію. (Тым часам урад, які нясе адказнасць за заключаныя раней у Маскве пагадненні — у тым ліку аб цэнаўтварэнні, захоўваў маўчанне.)

С. Шушкевіч, адказваючы на пытанне аб цэнах, выказаў апасенне, што гэтае павышэнне можа стаць крокам на шляху да чарговай «шокавай тэрапіі» ў выглядзе лібералізацыі цэн, якую мы перажылі ў студзені. Праўда, ён адразу падкрэсліў, што не трэба, на яго думку, адразу прымаць у адказ меры, якія прывялі б да яшчэ большага развалу «эсэнгэўскай» эканомікі. Ускладненне ўзаемаадносін з Расіяй, паводле слоў Шушкевіча, нікому не прынясе карысці.

Разам з тым Старшыня Вярхоўнага Савета паўтарыў свой тэзіс, які ён выказваў перад журналістамі ў час паездкі ў ФРГ. Беларусь, гаварыў ён, выступае за захаванне рублёвай прасторы. Аднак, калі Расія надалей не будзе выконваць дамоўленасці па грашовай эмісіі, кіраўніцтва рэспублікі прыме падрыхтаваныя на гэты выпадак сур'ёзныя меры, якія павінны засцерагчы насельніцтва Беларусі ад «нечаканасцей».

Што ж тычыцца пагадненняў з Расіяй, якія былі парушаны, дык парламент, падкрэсліў старшыня, не нясе за іх адказнасці, бо гэтых пагадненняў не ратыфікаваў.

Дарэчы, выступленне С. Шушкевіча ў Вольфсбургу, на міжнародным кангрэсе «Еўропа і свет на пераломе» таксама было прысвечана ў значнай ступені праблемам эканомікі. У прыватнасці, у дакладзе на кангрэсе праводзілася думка аб тым, што лібералізацыя цэн у тым выглядзе, у якім яна ажыццяўлялася, была памылкай. Вынікам яе стане падзенне вытворчасці, іншыя крызісныя з'явы.

Галоўнай тэмай прэс-канферэнцыі была, натуральна, паездка ў Германію, у якой разам са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі прымалі ўдзел старшыня парламенцкай камісіі па міжнародных справах П. Садоўскі і прафесар А. Міхайлаў. Пачалася паездка з візіту ў Бон. Гэтаму візіту па прапанове германскага боку быў нададзены афіцыйны характар. Старшыня Вярхоўнага Савета быў прыняты прэзідэнтам ФРГ Р. фон Вайцзэкерам. Адбыліся гутаркі з міністрамі эканомікі, фінансаў, юстыцыі, іншымі афіцыйнымі асобамі. Былі сустрэчы з вядомымі эканамістамі, дзеячамі культуры. На афіцыйных перамовах абмяркоўваліся перспектывы міждзяржаўнага дагавора аб эканамічным супрацоўніцтве, а таксама пытанні, звязаныя з адкрыццём пасольства Беларусі ў Германіі і пасольства ФРГ на Беларусі.

Як высветлілася ў ходзе прэс-канферэнцыі, практычна ніякіх дакументаў з германскі-

# ЗА ШТО І ЯК ЗМАГАЕЦЦА СПАДАР ГАЙДУКЕВІЧ

Раніцой бяру з паштовай скрынкі газеты і да ног ляціць невялікі аркуш белай паперы. Падымаю, разгортваю. Эге ж, лістоўка. «Все на митинг! Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь, сохранившие верность народу, и координационный комитет четырнадцати партий и движений приглашает принять участие в митинге на площади Независимости 17 сентября с. г.»

Потым даведаюся, што ў гэты дзень лістоўкі з заклікам выйсці на мітынг «пратэсту» выцягнулі са сваіх паштовых скрынак многія мае знаёмыя. Некаторыя з іх расказалі і пра тое, што нейкія людзі разносілі тыя «пракламацыі» па прадпрыемствах і навучальных установах.

Дарэчы, лістоўкі былі трох гатункаў. Адна, відаць, «галоўная», падпісана старшынёй каардынацыйнага камітэта С. Гайдукевічам, дзве іншыя, выдадзеныя ў «падтрымку» першай, былі пазначаны адпаведна партыяй камуністаў Беларусі ў купе з ленінскім камуністычным саюзам моладзі Беларусі (яны нават у запрашэнні не маглі стрымаць настальгіі па мінулым —месца мітынгу — плошча Незалежнасці — хоць у дужках была названа імем Леніна) і славянскім саборам «Белая Русь».

Мяркуючы па ліхаманкавай дзейнасці арганізатараў мітынгу, яны меркавалі сабраць на яго калі не палову Мінска, дык усё ж некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Але, як кажуць, з вялікага грому.., Не густы натоўп расцякаўся ад трыбуны невялікім паўкругам, многія з прысутных пераходзілі з месца на месца, гучна размаўлялі і, здаецца, не звярталі асаблівай увагі на прамовы, што ліліся з дынамікаў. Праўда, былі і выключэнні — з застылымі ад урачыстасці моманту тварамі стаялі сцяганосцы. Было цікава назіраць, як побач з чырвонымі з серпам і молатам камуністычнымі сцягамі лунаюць чорна-жоўта-белыя сцягі рускіх цароў Раманавых — пад імі прытупала на мітынг дэлегацыя славянскага сабору «Белая Русь», якая не была ў гэтым надта арыгінальнай — пад манархічнымі сцягамі даўно спраўляе свае шабашы чарнасоценная «Память».

Мітынг адкрыў уступным словам С. Гайдукевіч. Вельмі эмацыянальны спадар. Узмоцненыя дынамікамі ў натоўп ляцелі яго воклічы: «Не допустим!», «Заявляем протест!» «Скажем БНФ — хватит!» Што тычыць асноўных патрабаванняў, дык яны зводзіліся да наступнага: недапушчэнне прыняцця Вярхоўным Саветам законаў аб прыватызацыі і прыватнай уласнасці на зямлю, узаконенне двухмоўя.

Гэтую ж лінію праводзілі ў сваіх выступленнях, як правіла, загадзя напісаных, і іншыя прамоўцы. Вядома, яны гаварылі і пра абвальны рост цэн, палітычны і эканамічны крызіс у грамадстве, але ў тым, што яны прапаноўвалі для выхаду з гэтага становішча, нічагусенькі новага не было. Усё гэта мы ўжо, як кажуць, праходзілі..,

Сярод тых, хто стаяў на трыбуне, звяртала на сябе ўвагу мажная фігура спадара Гайдукевіча. Прозвішча гэтае ўсплыло на палітычным небасхіле нядаўна. Помню ягоны артыкул у «Народнай газеце» (здаецца, я тады ўпершыню пачуў гэтае імя), дзе ў надзвычай грубай форме з ужываннем абразлівых эпітэтаў па адрасе апанента вялася палеміка са старшынёй рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў М. Статкевічам. Потым прозвішча Гайдукевіча замільгала на старонках газет у сувязі са стварэннем каардынацыйнага камітэта, які ён узначаліў. І вось цяпер нястомны С. Гайдукевіч, у мінулым кадравы вайсковец, «вывеў свае палкі на поле бою».

Сяргей Васільевіч займае адказную пасаду ва Упраўленні па пытаннях правоў чалавека, грамадскай бяспекі і абарончай работы Савета Міністраў рэспублікі, і я зусім згодны з высновамі, якія зрабіў пасля сустрэчы з ім карэспандэнт «Народнай газеты» А. Класкоўскі: «У любой цывілізаванай краіне за такую актыўную палітычную дзейнасць чалавека, нанятага на дзяржаўную службу, імгненна вытурылі б..»

Але сказаўшы «А», трэба было карэспандэнту сказаць і «Б». Не трэба быць вельмі праніклівым чалавекам, каб зразумець, што ў асобе Гайдукевіча мы сутыкаемся не з самадзейнасцю, — ён дзейнічае ў поўнай згодзе з пэўнымі ўплывовымі сіламі ва ўрадзе, а можа, і па іх прамым даручэнні. Невыпадкова, відаць, у час мітынгу Сяргей Васільевіч, каторы раз авалодаўшы мікрафонам, урачыстым голасам паведаміў прысутным, што Старшыня Саўміна рэспублікі Вячаслаў Францавіч Кебіч прасіў яго перадаць ім прыемную навіну—з першага кастрычніка гэтага года будуць павышаны пенсіі адстаўным вайскоўцам.

Упраўленне, дзе працуе С. Гайдукевіч, ці не самае ўплывовае ва ўрадзе. Калі мець на ўвазе, што яно курыруе, а, мяркуючы па шматлікіх заявах яго начальніка Г. Данілава, і накіроўвае дзейнасць праваахоўных органаў (у тым ліку, вядома, КДБ) і арміі, дык стварэнне гайдукевіцкага «каардынацыйнага камітэта» набывае ці не злавесны сэнс.

Сярод арганізацый, якія аб'ядноўвае камітэт, безумоўна цэнтральнае месца належыць партыі камуністаў Беларусі і ўсебеларускаму славянскаму сабору «Белая Русь» — суседства, якое з дзесятак гадоў назад здавалася б ненатуральным, а сёння зусім у духу часу—артадаксальныя камуністы ў Расіі, а па іх прыкладзе і ў нас, цяпер аб'ядноўваюцца з чарнасоценнымі сіламі, з якімі іх яднае агульнасць мэт, пячорная нянавісць да свабоды і дэмакратыі (хоць, заўважым у дужках, яны з ахвотай выкарыстоўваюць у сваіх мэтах іх кволыя парасткі: ледзь што — пачынаюць скардзіцца на ўшчамленне сваіх дэмакратычных правоў).

Нават газеты гэтых груповак мала чым адрозніваюцца паміж сабой. Трымаю ў руках сёлетнія жнівеньскія нумары двух выданняў — так званай інфармацыйна-аналітычнай і навукова-

мі партнёрамі падпісана не было. Але такая мэта, па словах С. Шушкевіча, у гэтай паездцы і не ставілася. Перамовы мелі «канцэптуальны характар».

Тым не менш, як падкрэсліў на прэс-канферэнцыі П. Садоўскі, Беларусь займае значнае месца ва ўсходняй палітыцы ФРГ. Асаблівы акцэнт пры гэтым германскае Міністэрства замежных спраў робіць на неабходнасць развіцця грамадскіх і культурных сувязей — у прыватнасці, па лініі розных фондаў. Між іншым, неўзабаве мяркуецца адкрыццё на Беларусі аддзялення вядомага ў свеце фонду Гётэ.

Як зазначыў С. Шушкевіч, германскіх партнёраў цікавілі ў першую чаргу пытанні эканамічных сувязей, станаўленне рыначных адносін на Беларусі. Але заходнія журналісты задавалі гасцям і пытанні, звязаныя з унутрыпалітычнай сітуацыяй у рэспубліцы, у прыватнасці — з рэферэндумам аб будучым Вярхоўнага Савета.

Пытанне аб рэферэндуме (здаецца, яно ўжо становіцца дзяжурным) прагучала і на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Сутнасць сваёй пазіцыі С. Шушкевіч выклаў наступным чынам. Рэферэндум будзе абавязкова. Але строга ў рамках закона. Незалежна ад вынікаў рэферэндуму ў рэспубліцы захаваецца пераемнасць улады і стабільнасць. Бо мы, падкрэсліў С. Шушкевіч, — прававая дзяржава.

**Віталь ТАРАС.**

# ВОЛЮ ГРАМАДЗЯН ТРЭБА ВЫКОНВАЦЬ

**Нядаўна сойм Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» разгледзеў кірункі сваёй палітыкі, звязаныя з рэферэндумам. У выніку абмеркавання была прынята ўхвала, у якой, у прыватнасці, адзначаецца: «...Беларусь першаю сярод постсавецкіх краін мае шанц перайсці да дэмакратыі мірным, канстытуцыйным шляхам, захаваўшы грамадскі спакой.**

**Аднак «партыя ўлады», якую складае згуртаваная ў Саўміне, Саветах і выканкомах былая партнаменклатура, ігнаруе ў парушэнне закона волю амаль паўмільёна грамадзян Беларусі да рэферэндуму і новых выбараў. Ад вырашэння гэтага канфлікту ў значнай ступені залежыць будучыня, спосабы і тэмпы дэмакратычных пераўтварэнняў ва ўсім усходнееўрапейскім рэгіёне».**

**У сваёй ухвале сойм выступае за «правядзенне рэферэндуму і новых выбараў як галоўнай і неабходнай умовы ўсіх — эканамічных, палітычных, культурных — пераўтварэнняў». Рэферэндум разглядаецца як прыярытэт палітычнай дзейнасці БНФ на бліжэйшую перспектыву.**

**Фронт, як гаворыцца ў прынятым дакуменце, «імкнецца да стварэння і ўмацавання блоку дэмакратычных сіл Беларусі (пры ўдзеле АДПБ, БСДГ, БСП, БХДЗ, НДБП, рабочага руху, іншых дэмакратычных плыняў), які б меў гарантаваную перспектыву, прынамсі, на час паўнамоцтваў першага дэмакратычна выбранага парламента».**



Побач з партрэтам Леніна манархісцкі сцяг.
Фота У. ПАНАДЫ.

папулярнай газеты беларускіх камуністаў «Политика, позиция, прогноз» (ППП), якую рэдагуе В. Вольскі, і расійскай грамадска-палітычнай газеты «Народная правда», якая выдаецца ў «Ленинграде-Петербурге» (так там пазначана) і, мяркуючы па змесце, з'яўляецца рупарам такога чарнасоценнага новаўтварэння, як «Русский национальный собор». Дзьмуць абедзве газеты, паўтараю, у адну дуду. У «Народной правде» друкуецца нарыс, у якім у самых светлых фарбах малюецца партрэт стойкага камуніста, актыўнага гэкачэпіста, былога сакратара ЦК КПСС Шэніна, у «ППП» — прамова на закрытых пасяджэннях Вярхоўнага Савета СССР у 1991 г. яго цяперашняга сябра па «Матроскай цішыні» былога старшыні КДБ Кручкова. У «Народной правде» аддадзена цэлая паласа дакладу кіраўніка «Русского национального собора» былога генерала Сцерлігава, у якім пад шматзначным загалоўкам «Русские идуты!» выкладзены яго шавіністычныя ідэі. У «ППП» — цэлы разварот пазначаны агульнай шапкай «Славянский собор». Тут змешчаны цэлы набор матэрыялаў, прысвечаных дзейнасці расійскага і беларускага сабораў. З замілаваннем, напрыклад, паведамляецца аб прыездзе ў сталіцу Беларусі сустаршыні Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Славянский собор» С. Карпава і члена думы сабора А. Фралушкіна, якія «обсудят вопросы открытия МОО «Славянский собор» в Минске». Госці, між іншым, як паведамляе з задавальненнем газета, «встретились с депутатами Верховного Совета РБ, ответственными работниками госаппарата, членами думы Всебелорусского славянского собора «Белая Русь». Так што спадар Карпаў, трэба меркаваць, паехаў адсюль не з пустымі рукамі.

Але годзе аб гэтых выданнях. Дальбог, патрымаеш іх у руках і не можаш саўладаць з неадольным жаданнем тут жа пайсці і памыць рукі.

Заўважу яшчэ вось што — распаўсюджванню ў рэспубліцы замежных газет тыпу «Народной правды» наладжана зялёная вуліца. У кіёсках вы знойдзеце і выданне «Памяти» «Пульс Тушина», і «Русский вестник» Рускай нацыянальнай партыі, і сумнавядомы «День», і пецярбургскае «Народное дело», рэдактар якога нехта Андрэеў быў нядаўна, як паведамілі «Известия», арыштаваны па санкцыі пракурора за распальванне на старонках газеты нацыянальнай варожасці. Характэрны факт: у час вобыску ў яго кватэры былі знойдзены перакладзеныя на рускую мову кніжкі Гітлера, Гебельса, Розенберга, пячаткі і штампы з нацысцкімі лозунгамі і заклікамі.

Узнікае законнае пытанне: чаму ў таго ж «ЛіМа», «Полымя», «Беларусі», «Нёмана», іншых беларускіх выданняў узнікаюць амаль непераадольныя перашкоды на шляху іх распаўсюджвання нават сярод былых сталых падпісчыкаў за межамі Беларусі, у той жа Расіі, напрыклад? Ці мо абвешчаную на пачатку стварэння СНД «празрыстасць» межаў паміж былымі рэспублікамі сяму-таму хочацца зрабіць празрыстай толькі ў адным напрамку?

«...Выйдем на площадь и заставим Верховный Совет вспомнить, кому он обязан служить!» — напісана было ў лістоўцы-запрашэнні на мітынг. Каму служыць? Ну, вядома ж, не камуністычнай уладзе. Як некалі. Цягнік пайшоў.

**Міхась ЗАМСКІ.**

**ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ**

# Хацелася б памыліцца яшчэ раз...

Шчыра кажучы, рэдакцыя «ЛіМа» не чакала такога розгаласу, які выклікала невялічкая нататка «Хацелася б памыліцца...» («ЛіМ», 4 верасня г. г.). Нагадаем коратка змест тае публікацыі. Гутарка йшла пра магчымую перадачу праваслаўнай царкве напярэдадні святкавання 1000-годдзя хрысціянства на Беларусі полацкага храма св. Сафіі. Выказвалася ў сувязі з гэтым сумненне ў мэтазгоднасці такога «падарунка» царкве, якая яшчэ не набыла нацыянальнага аблічча, фактычна падпарадкоўваецца Маскоўскаму патрыярхату і праводзіць яго інтарэсы на тэрыторыі нашай краіны. Такая царква не можа прэтэндаваць на манапольнае ўладальніцтва галоўным храмам Беларусі, сімвалам яе незалежнасці і духоўнай моцы. Газета выказала гатоўнасць надрукаваць афіцыйнае апразяржэнне чутак пра перадачу Сафійкі праваслаўнай царкве.

Як паказала далейшае развіццё падзей, невялічкая заметка выклікала проста-такі выбуховую рэакцыю з боку Беларускага Экзархата. Жодзінскі святар А. Шынкевіч выступіў па «Радыёфакту», а затым на прэс-канферэнцыі ў Менскім епархіяльным упраўленні 16 верасня, — з заявай ад імя беларускіх святароў у абарону годнасці мітрапаліта Філарэта, быццам бы зняважанага публікацыяй «ЛіМа». Гэты ж святар заявіў, што «ЛіМ» пастаянна нападае на праваслаўе, ганьбіць гэтую царкву. Карэспандэнта «ЛіМа» моцна здзівіла такая нянавісць духоўнага айца, рэдактара газеты «Царкоўнае Слова» (!), — да газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі, на першай старонцы якой нядаўна быў змешчаны яго ўласны партрэт з ухвальным тэкстам пра духоўную місію а. Аляксія Шынкевіча ў жодзінскай акрузе. Надта ўжо няўдзячная забыўчывасць... Забыўся чамусь а. Аляксій і на артыкулы ў «ЛіМе» протаіерэя Сергія Гардуна з Жыровіц у абарону праваслаўнай традыцыі на Беларусі, іншыя матэрыялы, якіх за гэты год было змешчана багата. Ва ўсякім разе, мы няпэўны ў тым, што прамаўляла праз вусны а. А. Шынкевіча — імкненне да справядлівасці ці што іншае, незразумелае цалкам і яму самому.

Што тычыцца абразы Уладыкі Філарэта, назваўшы яго прадстаўніком інтарэсаў замежнай краіны, дык тут перабольшаны сэнс публікацыі. Ніхто не сумняваецца ў тым, што Уладыка, народны дэпутат Беларусі, ёсць грамадзянін Беларусі і фізічна, як грамадзянін, пражывае тут, а не ў Маскве. І вельмі ўхвальна, што святарства таксама добра разумее гэтую акалічнасць і бароніць свайго іерарха. Але ў публікацыі «ЛіМа» гутарка вялася пра іншае: пра неадпаведнасць намінальнай Беларускай Праваслаўнай царквы нацыянальнаму характару, мове, інтарэсам беларускага народа. Па адказах на гэтае пытанне, якое наш карэспандэнт задаў на прэс-канферэнцыі ў экзархаце, можна было зрабіць высновы, што справы з дапасаваннем праваслаўя да інтарэсаў вернікаў не такія і лагодныя, мова па-ранейшаму амаль не ўжываецца ў прапаведзях, не ўжывае яе і сам шаноўны Уладыка Філарэт. Дый што мова — нічога не было сказана нат пра ўдзел праваслаўных святароў у маральным аздараўленні грамадства, у філантропных акцыях, у нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі.

Нам затое дакладна вядомы факты процілеглага характару з жыцця тутэйшай праваслаўнай царквы. Вядома, напрыклад, пазіцыя і адпаведная прапаганда ў храме Божым служак Свята-Петра-Паўлаўскай царквы ў Менску, якія называюць беларускую мову насланнём нячысціка, а Дом літаратара — месцам зборышчаў псіхічна хворых, ненармальных людзей, «белорусских письменников». Мы добра ведаем таксама, як успрымаецца ў колах менскага праваслаўнага клеру дзейнасць Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх пакутнікаў. Вядомы і паводзіны праваслаўных вернікаў, інспіраваныя паствай, — у Гродне, дзе царква заняла памяшканні Музея гісторыі рэлігіі. Такія факты не могуць не выклікаць засмучэння і сумненняў у «беларускасці» БПЦ, у разуменні ёю інтарэсаў беларускай дзяржавы. Пакуль што факты кажуць хіба пра адваротнае.

Добра, што БПЦ пачынае ўсведамляць сваю юрыдычную прыпіску да Рэспублікі Беларусь, але асноўная, сутнасная справа па яе паяднанні з жыццём вернікаў-беларусаў, з іх мовай, на якой гаворыць пераважная большасць жыхароў рэспублікі і абсалютная большасць саміх беларусаў, — на наша меркаванне, яшчэ наперадзе. І самы надзённы клопат для гэтай царквы — зжыццё прыгаданых выказванняў і настрояў спаміж айцоў духоўных, бо калі ў святым храме чуцен «стогн і скрыгат зубоў», дык гэта папраўдзе ад нячысціка.

Але вернемся да прадмета гутаркі — лёсу Сафійскага сабора. Як высветліў наш карэспандэнт у намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны А. Трусава, на яго запыт у сувязі з публікацыяй «ЛіМа» прадстаўнікі Савета Міністраў афіцыйна заявілі, што згадка пра перадачу Сафійскага сабора праваслаўнай канфесіі не мае пад сабой грунту. Занепакоенасць газеты, такім чынам, аказалася дарэмнай, і адказам прадстаўнікоў Саўміна мы гатовы былі задаволіцца. Але... На прэс-канферэнцыі ў епархіяльным упраўленні пытанне пра лёс Сафійскага сабора было ўзнята зноў, на гэты раз нашымі калегамі з радыёстанцыі «Крыніца». Намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Рылатка абмежаваўся тым, што сказаў, што лёс сабора могуць вырашаць толькі полацкія гарадскія ўлады, і таму Міністэрства культуры нешта вырашаць не паўнамоцна. Намеснік міністра напомніў, што «пакуль сабор выкарыстоўваецца як культурная ўстанова». У працэг адказу У. Рылаткі Уладыка Філарэт вымавіў шматзначнае: «Пакуль...», — тонам чалавека, які не сумняваецца ў тым, што дасягне пастаўленай мэты...

Дык як усё-такі разумець сітуацыю вакол Сафійскага сабора? Зыходзячы з перадгісторыі пытання, можна спрагназаваць і такое развіццё падзей. Савет Міністраў і Міністэрства культуры рэспублікі адмяжоўваюцца ад вырашэння лёсу Сафійкі, а рашэнне аб яе перадачы праваслаўнай царкве па-за ўрадавымі органамі прымае Полацкі гарвыканкам. Мы хацелі б у сваім прагнозе памыліцца яшчэ раз, і з гатоўнасцю надрукуем афіцыйны адказ кіраўніцтва Полацкага гарвыканкома з яго апраўяржэннем.

**Ю. З.**

## АД РЭДАКЦЫІ

Калі быў падрыхтаваны да друку матэрыял, рэдакцыя атрымала ліст:

«Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь хоча паведаміць сваю пазіцыю наконт лёсу Полацкай Сафіі чытачам газеты «ЛіМ».

Полацкая Сафія з'яўляецца унікальным помнікам дойлідства, часткай музейнага комплексу г. Полацка і канцэртнай залай. Полацкая Сафія—гэта духоўны гонар Беларусі, таму Сафія не павінна раз'ядноўваць сённяшніх людзей, а наадварот—кансалідаваць грамадства як сімвал беларускай дзяржаўнасці і шматпакутлівай гісторыі беларускага народа.

На падставе «Закона аб культуры Рэспублікі Беларусь» міністэрства лічыць немагчымым перадачу Полацкай Сафіі ў маёмасць рэлігійных устаноў. Наколькі нам вядома, гэту пазіцыю падтрымлівае Полацкі гарвыканкам.

Адначасова міністэрства ні ў якім разе не можа пагадзіцца з тым, што ў адрас Беларускай праваслаўнай царквы (як і ў адносінах да іншых канфесій) выказваюцца абвінавачванні ў прыналежнасці да іншых дзяржаў і заклікае журналістаў да ўдумлівых і паважлівых адносін да рэлігійных канфесій і духоўных асоб. Сёння як ніколі патрэбна грамадская згода на карысць адраджэння беларускасці ва ўсіх галінах нашага жыцця. Міністр Я. К. Вайтовіч».

Гэтым лістом Міністэрства культуры фактычна прызнае, што перадача Полацкай Сафіі Рускай праваслаўнай царкве (дакладней, яе філіялу на Беларусі) супярэчыць інтарэсам нашай дзяржавы, ні ў якім разе не можа спрыяць кансалідацыі беларускага грамадства—наадварот, можа «раз'яднаць людзей». Такое супадзенне пазіцыі «ЛіМа» і міністэрства радуе, калі б не адзін абзац...

«На падставе «Закона аб культуры Рэспублікі Беларусь» міністэрства лічыць немагчымым перадачу Полацкай Сафіі...»

А калі не «на падставе», калі на іншай падставе ці ўвогуле без падставы? Калі на «баявым рахунку» прапольскі настроеных ксяндзоў—аблогі Дома кіно і Музея ў Раўбічах, дык іхнія праваслаўныя браты па духу даволі паспяхова штурмавалі Музей рэлігіі ў Гродне. Дзе гарантыя, што РПЦ зноў не пусціць наперад «штурмавы атрад»?

Зноў жа, наконт юрыдычнага ўладальніка Сафіі Полацкай гарвыканкама, які нібыта пазіцыю міністэрства падтрымлівае. Ну а як перадумае: мая ўласнасць—хачу прадам, хачу падару? А ў Доме ўрада рукамі развядуць, ці як? Адным словам, барацьба за Сафію працягваецца.

І апошняе. На мінулым тыдні ў «Радыёфакце» быў перададзены тэкст сумна вядомай заявы, прачытанай ад імя праваслаўнага духавенства Беларусі святаром А. Шынкевічам. А потым было паведамленне аб удзеле святара ў прэс-канферэнцыі і аб тым, што ён стаў ахвярай разбойніцкага нападу. Няцяжка зразумець, што многія слухачы ўспрынялі першую і другую інфармацыю ў прычынна-выніковай сувязі: вось, маўляў, якія пакуты церпіць праваслаўны святар за свае словы.

Тым днём у рэдакцыю званілі вернікі, насылаючы на нашы галовы «кары нябесныя». Але якое дачыненне мае «ЛіМ» да подлага злачынства? Вось чаму мы вымушаны папракнуць калег з «Радыёфакта» за некарэктнасць у падачы інфармацыі.

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# Мікола КРУКОЎСКІ:

# «МЫ БЯРОМСЯ З ІДЭІ СЯБЕ, І МЫ МУСІМ ЯК СЛЕД ВЫКАЗАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ»

**Гутарку вядзе Юрась ЗАЛОСКА**

**Доктар філасофскіх навук, прэзідэнт Беларускай эстэтычнай асацыяцыі, аўтар пяці кніг пра мову і пра эстэтыку, у якіх распрацавана эстэтычная канцэпцыя чалавека як біясацыяльнага адзінства, — гэта Мікола Ігнатавіч Крукоўскі. Імя яго і ідэі доўгі час замоўчваліся бальшавікамі ад філасофіі, беларускі чытач з кнігамі М. Крукоўскага «Логіка прыгажосці», «Кібернетыка і законы прыгажосці», «Номо pulcher — чалавек прыгожы», знаёміўся выпадкова, нічога не ведаючы пра іх існаванне. Але часы няведання мінаюць, і мы сёння маем магчымасць пазнаёміцца з ідэямі і лёсамі нашых сучаснікаў — нешматлікіх сумленных мысляроў нядаўняга мінулага.**



## Прафесар Крукоўскі пра эстэтыку, пра час і пра сябе.

**«...Эстэтыка — мая першая і самая моцная любоў. Калі лінгвістыка, кажучы фігуральна, пэўны час была для мяне законнаю жонкаю, якую я паважаў і любіў, дык эстэтыка, была спачатку маёй тайнай, а пасля яўнай каханкай, зачараваным якой застаюся дагэтуль. Эстэтыкай пачаў займацца яшчэ ў студэнцкія гады на філфаку БДУ, дыпломная работа была па эстэтыцы. Ужо ў той рабоце, дарэчы, з'явіліся першыя зярняты эстэтычнай канцэпцыі, над якою потым працаваў амаль усё сваё жыццё. Захапляўся і лінгвістыкай, і калі з-за беспартыйнасці не быў прыняты ў аспірантуру па эстэтыцы, К. Крапіва ўзяў мяне на работу ў Інстытут мовазнаўства АН БССР.**

**Гэта вельмі дапамагло ў далейшым. Прайшоўшы добрую школу строгага лінгвістычнага мыслення ў Інстытуце мовазнаўства (а лінгвістыка бадай што самая дакладная і строгая з усіх гуманітарных навук), я аказаўся нядрэнна ўзброеным метадамі лагічнага даследавання. Дапамагло таксама і захапленне гегелеўскай дыялектыкай.**

**У тагачаснай, пасляваеннай беларускай эстэтыцы, якая ўяўляла сабой убогі зляпак з таго, што пісалі маскоўскія і ленінградскія мэтры, панавала дзівосная сумесь цытат з класікаў марксізму-ленінізму і сырых эмпірычных фактаў мастацтвазнаўства. Мне, маладому навукоўцу, захацелася прымяніць у эстэтыцы больш строгія лагічныя метады, абапіраючыся на Гегеля і найноўшыя дасягненні логікі, лінгвістыкі, кібернетыкі і тэорыі інфармацыі. Але не тут тое было, як кажуць расейцы... Як я даведаўся значна пазней з сумна вядомай кніжкі М. Якаўлева «ЦРУ против Советского Союза», такія падыходы да эстэтыкі ў пятым Упраўленні КДБ кваліфікаваліся як «происки» амерыканскіх спецслужбаў. А тады, на пачатку 60-х, мяне хутка і проста паставілі на месца: правалілі доктарскую дысертацыю паводле кнігі «Логіка прыгажосці» і амаль дваццаць пяць год не давалі магчымасці абараняць яе, старанна выкрэслівалі са спецыялізаваных, навуковых часопісаў і выданняў маё прозвішча і спасылкі на мае работы. Не маглі дараваць у ЦК КПСС, які курыраваў і эстэтыку таксама, што я больш абапіраўся на Гегеля, Фрэйда, Шпэнглера, Тойнбі і Сарокіна, чым на Маркса з Леніным, што ні ў воднай з пяці напісаных кніг па эстэтыцы і лінгвістыцы не спасылаўся ні на з'езды КПСС, ні тым больш на выступленні генсекаў.**

**Тым не менш сёе-тое ўдалося зрабіць. Гэта перадусім распрацоўка новай класіфікацыі эстэтычных катэгорый, што складаюць лагічную аснову эстэтыкі як навукі, абгрунтаванне сувязі паміж гэтымі катэгорыямі і паняццем стылю ў мастацтвазнаўстве (пры яго абумоўленасці ходам развіцця грамадска-эканамічных фармацый), кібернетычная трактоўка гэтых узаемасувязяў. Распрацаваны метад прымяніў для аналізу фізічнай прыгажосці чалавека і ў асаблівасці прыгажосці жаночага цела... Створана канцэпцыя чалавека як біясацыяльнага адзінства. Усё гэта аказваецца плённым цяпер, пры распрацоўцы агульнай тэорыі і гісторыі культуры.**

**Так што пэўныя здабыткі ёсць і, спадзяюся, беларускай эстэтыцы за іх не будзе сорамна. Кнігі мае перакладзены за мяжою, дастаткова вядомыя на Захадзе. Але што датычыць Масквы... Там і вухам не вялі ў бок Беларусі, усяляк замоўчвалі, у прыватнасці, мае распрацоўкі. Болей таго, у часы перабудовы ў Маскве адкрываецца Інстытут чалавека, стваральнікі якога тонам першаадкрывальнікаў заяўляюць пра патрэбу для філасофіі разглядаць чалавека як біясацыяльнае адзінства. Пра маю канцэпцыю, распрацаваную ў 60-я гады, — ані слова. Гэта нешта больш кашчуннае, чым навуковае эпігонства, гэта — папранне нашага, беларускага прыярытэту ў поглядзе на чалавека як эстэтычны аб'ект. Цынічнае, без якіхсьці хістанняў сумлення прыўлашчванне Масквою інтэлектуальных напрацовак у рэспубліках складае, на мой погляд, адну з самых ганебных і самых цьмяных старонак савецкае гісторыі. Мы яшчэ даведаемся з цягам часу, колькі нашых думак прысвоіў сабе г. зв. Цэнтр.**

**Усе мы гнуліся перад цэнтрам — і гнулі нас дужа моцна, — мыслілі адносна цэнтра, змагаліся за публікацыі ў цэнтральных выданнях. Я, можа, й шкадую цяпер, што пісаў свае кнігі па-руску, нягледзячы на ігнараванне маіх распрацовак маскоўска-ленінградскімі аўтарытэтамі. Для мяне навука набыла адэкватны сэнс тады, калі я пачаў мысліць адносна самога сябе і адносна сваёй, беларускай культуры, перайшоў, што называецца з масквацэнтрычнай на мінскацэнтрычную сістэму каардынат».**

●

**Ю. ЗАЛОСКА.** Мікалай Ігнатавіч, можа, пачнём з самага простага пытання: што такое культура ўвогуле?

**М. КРУКОЎСКІ.** Пра культуру адным словам не скажаш. Гэтае паняцце з'явілася ў гісторыі філасофіі адносна й не так даўно, але гаварылася і гаворыцца пра культуру вельмі многа. Адных толькі вызначэнняў паняцця існуе больш чым 250! Адак жа пакуль нельга сказаць, каб мы ўжо ўсё ведалі пра гэтую цікавую, вельмі шырокую і вельмі складаную з'яву — культуру.

У традыцыйным марксізме і тым болей у марксізме-ленінізме культуры не вельмі шэнціла: адзінае, што тут больш-менш упэўнена сцвярджалася, — гэта тое, што існуюць дзве культуры адпаведна існаванню двух класаў — прыгнятальнікаў і працоўных. На Захадзе і ў расійскай філасофіі таксама існавала вялікае разнамоўе ў трактоўцы культуры. Калі на Захадзе развіццё культуралогіі ішло ў кірунку ўсё больш дробнага эмпірычнага аналізу складнікаў і асаблівасцяў канкрэтных культур, дык расійскія рэлігійныя філосафы У. Салаўёў, С. Булгакаў і іншыя схіляліся да абстрактных, універсальных яе трактовак, часам прымаўшых амаль што багаслоўскі характар. Хаця і там і тут было нямала цікавых, плённых канцэпцый.

Культуру цяжка акрэсліць у некалькіх словах, тым болей, што само слова «культура» шырока і ў розных сэнсах ужываецца ў побыце. Ці не найслушна пачынаць гутарку пра культуру з метафарычных, вобразных азначэнняў. Мне, напрыклад, даспадобы метафара французскага культуролага К. Леві-Строса: калі прыняць дзікую, некранутую чалавекам прыроду за «сырое», дык культура — гэта ўжо нешта «гатаванае». Немец Г. Касірэр параўноўваў культуру з ракавінай малюска, а вялікі Ф. Шылер — з каралавым рыфам, створаным паліпамі. Калі ж пакінуць убаку метафарычныя параўнанні і паспрабаваць даць навуковую фармулёўку, дык я схіляюся да наступнае: культура ёсць цэласная сукупнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, якія створаны чалавецтвам у працэсе яго гістарычнага развіцця і садзейнічаюць яго паўнавартаснаму і шчаслівaму існаванню.

Чалавек — гэта біясацыяльнае адзінства. Ва ўзаемадзеянні з прыродай ён імкнецца задаволіць свае цялесныя і духоўныя патрэбы і стварае каштоўнасці, якія адпаведна падзяляюцца на матэрыяльныя і духоўныя: страва, адзенне, жыллё, прылады працы і побыту і — пэўныя веды, інфармацыя аб знешнім свеце і аб сабе. Носьбітамі гэтых двух відаў каштоўнасцяў з'яўляюцца матэрыяльныя рэчы і мова як аб'ектаваная свядомасць чалавека. Паміж рэчамі і словамі палягае шырокі прамежкавы пласт культуры мастацкай, якая злучае ўласна матэрыяльную культуру і культуру ўласна духоўную. Напрыклад, дызайн і прыкладное мастацтва мяжуюць з чыста матэрыяльнай культурай, прадметамі ўтылітарнай вытворчасці: адзеннем, мэбляй, керамікай і інш.; а мастацкая літаратура — з культурай духоўнай — філасофіяй, навукай, рэлігіяй.

Вызначаныя пласты культуры звязаны вельмі цесным дыялектычным вузлом і ўтвараюць цэласную сістэму, у якой па-рознаму адбіваецца сам чалавек. Пагэтаму памыляюцца нашы дзяржаўныя кіраўнікі, думаючы, што толькі эканомікай, г. зн. матэрыяльнай культурай, адратуецца наша грамадства. Евангельская прыпавесць «Не хлебам адзіным...» не губляе свае ісціннасці і па сёння. Марксісцкая ўстаноўка «бытие определяет сознание» ўсё-такі прымітыўная па сваёй сутнасці... Постсавецкі эканамічны крызіс, заняпад у рэспубліках былога СССР трэба тлумачыць найперш крызісам духу, а ўжо затым «парушэннем сувязяў» і да т. п.

**Ю. З. Такім чынам, падзенні і ўзлёты чалавецтва, што зафіксаваны ў гісторыі, — абумоўлены ў большай ступені ўзлётамі альбо падзеннямі чалавечага духу, духоўнасці?**

**М. К.** Культура не ёсць нешта статычнае, нязменнае. Яна развіваецца, праходзячы фазы ўзлёту, росквіту і заняпаду. Заходні культуролаг О. Шпэнглер, аўтар вядомай кнігі «Заход Еўропы», метафарычна казаў аб вясне культуры, яе лецe, восені і зіме. А' за сто гадоў да яго Гётэ параўноўваў жыццё грамадства і яго культуры з біццём чалавечага сэрца: сістала, потым дыястала, сістала, потым дыястала... За гэтымі прыгожымі метафарамі хаваюцца вельмі сур'ёзныя філасофскія і сацыялагічныя паняцці грамадскай фармацыі і фазаў яе развіцця. Падыход да гісторыі як паслядоўнай змены грамадска-эканамічных фармацый даволі шырока распаўсюджаны ў свеце, можа, толькі найменні і азначэнні адрозніваюцца. Кожная фармацыя (тэрмін, на маю думку, можа быць ужываны і цяпер, гэта паняцце не толькі марксізму) перажывае сваю ўласную, унутраную гісторыю, мае сваю маладосць, сталасць і заняпад альбо, па Шпэнглеру, — вясну, лета, восень, зіму. Такія ж фазы развіцця перажывае і сам чалавек як пэўны культурны тып. Аб гэтым філосафы гавораць амаль што з часоў Платона, а найбольш выразна і лагічна ў эстэтычным аспекце паказаў гэта Гегель.

Маркс і Энгельс таксама прытрымліваліся такой канцэпцыі развіцця грамадства, але толькі ў вузкім, палітыка-эканамічным аспекце. На маю думку, у гэтым — асноўная хіба іх вучэння... Калі паняцце фармацыі моцна шанавалася марксістамі (першабытнаабшчынны лад, рабаўласніцтва, феадалізм, капіталізм і адпаведна сацыялізм), дык паняцце фазы, паслядоўная іх змена ўнутры фармацыі не толькі не цікавілі афіцыйных партыйных любамудраў, але ўспрымаліся імі як нешта крамольнае. Прадчувалі, мабыць, тут нешта нядобрае... А нядобрае бачылася і без ведання Шпэнглера. Рэч у тым, што фазы развіцця грамадства абумоўлены рознымі суадносінамі матэрыяльнага і духоўнага пластоў культуры. «Увесну» духоўнае пануе над матэрыяльным (гераічная ўзвышанасць, рамантычны рацыяналізм, самаахвярнасць і рыгарызм); «летам» — духоўнае і матэрыяльнае гарманічна спалучаюцца (фідыеўска - рафаэлеўска-моцартаўская гармонія розуму і пачуцця, ratio і empirio, зместу і формы, духа і цела); «восенню» — матэрыяльнае пераважае над духоўным (так званы «вещизм», цынізм, эгаізм, натуралізм, бездухоўнасць). І, нарэшце, «зіма» — поўнае заміранне жывога, адухоўленага ў грамадстве і культуры, крушэнне колішніх ідэалаў і запанаванне жывёльнасці, варварства. Зыходзячы з гэтай культуралагічнай схемы можна было, не чытаючы Шпэнглера ці Тойнбі, убачыць, якую фразу развіцця праходзіць наша грамадства. Менавіта: задоўга да так званай перабудовы ў нас ужо надышла «восень», і восень глыбокая...

**Ю. З. Выбачайце, а калі ў нашай савецкай краіне паспела адбыцца «вясна»?**

**М. К.** У эстэтычным аспекце фазы развіцця грамадства праяўляюцца наступным чынам: на пачатку, г. зн. на фазе станаўлення фармацыі, у чалавеку і культуры дамінуюць катэгорыі трагічнага, а затым узнёслага, як перавага духоўнага над матэрыяльным, ідэальнага над рэальным. Нагадайце 20-я гады ў нашай краіне: абсалютнае дамінаванне ідэалізму, ідэалагічная матывацыя пераважыла ўсё астатняе ў чалавеку, уключаючы палавы інстынкт. Класічны тып чалавека таго часу — Паўка Карчагін. Гэты тып чалавека савецкае «вясны». Дзеля ідэалогіі чалавек «вясны» мог ахвяраваць чым заўгодна: здароўем, сям'ёй, уласным жыццём, і гэта лічылася нормай.

**Ю. З. Па ідэі, гэткая «норма» мусіць быць з'явай часовай?**

**М. К.** Так, але гэта калі зыходзіць з класічнай культуралагічнай схемы, паводле якой «вясна» пераходзіць у «лета» і суадносіны ідэальнага і рэальнага гарманізуюцца — тады надыходзіць перыяд росквіту грамадства. Для характарыстыкі росквіту ўжываецца эстэтычная катэгорыя прыгожага як гарманічнага адзінства матэрыяльнага і духоўнага. Але фармацыйная эвалюцыя павінна адбывацца натуральным чынам, без гвалтоўнага прыспешвання гісторыі. З'яўленне фармацыі нельга прыспешыць альбо затармазіць, гэтаксама як нельга пераскочыць цераз абавязковы этап грамадскага развіцця. Бальшавікі ў 1917 годзе ўдумалі зрабіць гістарычны скок. Расія толькі пачынала ўжывацца ў капіталістычныя формы эканомікі, як яе штурхнулі ў ідэальны сацыялізм. Цана таго штуршка цяпер нам добра вядома.

**Ю. З. Адбыўся збой у натуральным гістарычным развіцці краіны пад назовам Расійская імперыя?**

**М. К.** Развіццё расійскай гісторыі і да 1917 года адбывалася пераважна не натуральным чынам. Яе, Расію, уздымаў на дыбы цар Пётр I, гэты рэвалюцыйны тэрарыст на троне, як яго ахарактарызаваў Герцэн. Нешта падобнае адбывалася пад Уладзімірам Святым, калі язычніцкай Кіеўскай Русі было жорстка навязана хрысціянства, меўшае за сабою тысячагадовую ўласную гісторыю ад нараджэння Хрыстова і яшчэ тысячу гадоў у антычнасці.

Псіхалогія надрыву сталася адной з вызначальных канстант рускага чалавека. Пра гэта пісаў М. Бярдзяеў, тлумачачы паходжанне расійскага бальшавізму. Бальшавізм прыйшоўся на выгодную глебу, людзі шчыра адгукнуліся на новыя ідэалы. У пачатку, калі бальшавікі асабліва пранікнёна верылі ў сваю правату, трагізм сітуацыі праз сродкі прапаганды рэтушаваўся рамантычнымі, узнёслымі фарбамі. Але ўжо тады, на пачатку савецкага ўзлёту, гучалі папярэджанні, чым гэты ўзлёт можа скончыцца: у лістах У. Караленкі да Луначарскага, у «Несвоевременных мыслях» М. Горкага, у «Окаянных днях» І. Буніна. Разумелі трагізм рэвалюцыі і прадстаўнікі старой расійскай інтэлігенцыі, той жа М Бярдзяеў, напрыклад, і яго калегі па «філасофскім параходзе», якія былі высланы з Савецкай Расіі ў 1920 годзе.

Несвоечасовасць і штучнасць пераходу да сацыялізму, мінуўшы капіталізм, паступова пачалі разумець і самі бальшавікі, якія пад ціскам рэальнасці хутка перараджаліся. І тады яны звярнуліся да насілля, гвалту, чым не асабліва грэбавалі ад пачатку рэвалюцыі. Палітычны тэрор, індустрыялізацыя, калектывізацыя, канцлагеры... Гэтаму вельмі садзейнічалі і асабістыя рысы прыйшоўшага да ўлады Сталіна — невуцтва, каварства, пачварная жорсткасць. Дыктатура, якую сам Маркс лічыў толькі часовым сродкам «пераходнага перыяду», была прынята Сталіным за сутнасць сацыялізму.

Краіна спадобілася самалёту, якому занадта задралі нос, каб набраць вышыню. Хуткасць у выніку пачала падаць... Ужо ніякія гарбачоўскія паскарэнні і перабудовы не змаглі прадухіліць катастрофы: самалёт — краіна — сарваўся ў штопар, развальваючыся на кавалкі.

**Ю. З. З вашай метафары можна зразумець, што савецкая культура мела толькі дзве фазы — узлёту і падзення, прамінуўшы фазу гармоніі — «лета»?**

**(Працяг на стар. 12).**

званых школ». Відаць, не памылімся, калі да самага значнага здабытку беларускага літаратуразнаўства аднясём вопыт сацыялагічнай і культурна-гістарычнай школаў — працы М. Багдановіча, М. Гарэцкага, М. Замоціна. Сёння тэрмін «сацыялагічны» без падставы атаясамліваецца з яго фальсіфікацыяй — вульгарызаваным сацыялагізмам. Пагарда ж да сацыяльнага зместу беларускай літаратуры заканамерна вядзе да фальсіфікацыі нацыянальнай эстэтыкі. Аксіялогія ў беларускай культуры трымаецца на сцвярджэнні непаўторнасці самога існавання як вышэйшай каштоўнасці. Адсюль ідзе цікавасць да «роднага кута», непаўторнасці імгнення. Менавіта з гэтым арсеналам беларуская літаратура ўступіла ў дыялог культур, каб адстаяць права народа і асобы на самасцвярджэнне ў чалавецтва, каб супрацьстаяць ідэолагам «соборности», якая на справе з'яўляецца прапаведдзю растварэння народаў у імперыі, дзяржаўных інстытутаў — у нетрах тэакратыі, асобы — у літургіі.

Без беларускай аксіялогіі агульная карціна еўрапейскага экзістэнцыялізму будзе няпоўнай, як і эпас — без «Новай зямлі», ваенная проза — без аповесцяў В. Быкава. І ці не ў пагардзе да сацыяльнага ведання хаваецца адна з няўдач сучаснага літаратуразнаўства? Хіба чытач не застаўся б у выйгрышы, калі б сучасная літаратура і тэорыя намалявалі тыпаж сучаснай наменклатуры з такой яркасцю, як некалі сацыяльна-бытавая казка малявала тыпы тагачаснага панства? Могуць спытаць: а пры чым тут літаратуразнаўства? Пры тым, што ад яго адсеклі чалавеказнаўчы змест, які сяк-так прызнаецца за літаратурай: «Літаратуразнаўства — гэта навука аб літаратуры». Крытыку не так даўно лічылі «самасвядомасцю літаратуры». Люстрам літаратуры, але не жыцця. Накладвалі клішэ з расійскіх падручнікаў. Вось і дажыліся да таго, што праблемны артыкул стаў праблемай для сучаснай крытыкі. А між тым змест вобразаў ажывае ў літаратуразнаўстве. Літаратуразнаўства — гэта навука адначасова канкрэтызаваць і ўзбагачаць чалавеказнаўчы плён мастацкага слова, раскрываць заканамернасці развіцця літаратуры. Такім яно стане тады, калі спасцігне адметнасць гістарычнай паэтыкі ў яе нацыянальным варыянце, калі раскрые аксіялагічнае напаўненне і функцыянальнае прызначэнне структуры. У надзвычай аргументаваным і на дзіва вытрыманым артыкуле Віктара Каваленкі «Правінцыя» тэорыі ці «Тэорыя» правінцыі («ЛіМ», 24.07.92) ёсць досыць смелае на сённяшні час выказванне: «у савецкім літаратуразнаўстве аказаўся вельмі дасканала развітым сацыяльны метад аналізу, і яго плённасць яшчэ нідзе і нікім сур'ёзна не ставілася пад сумненне, калі не спрашчаць і не вульгарызаваць яго эстэтычнай сутнасці». Большасць удзельнікаў размовы пра літаратуразнаўства не лічаць, як бачым, што «другое прачытанне»— гэта абавязкова наадварот. Гатоўнасць ісці сваім шляхам абнадзейвае і задно патрабуе добрай дасведчанасці ў наваколным свеце, у чалавецтвазнаўстве, у спецыфічных узаемасувязях літаратуры з іншымі формамі нацыянальнай культуры — фальклорам, жывапісам, прававой і палітычнай. Менавіта ў гэтым бачыцца сутнасць палемічнага пафасу артыкула Генадзя Праневіча «Забыты шлях» («ЛіМ», 18.X.92). Справядліва папракаючы Ц. Ліякумовіча за жаданне «засведчыць залежнасць, падпарадкаванасць, калі хочаце, абавязанасць беларускай літаратуры і яе творцаў перад вялікай рускай літаратурай», за «амбітны тон, на які збіваецца аўтар, настойваючы на апякунскай, вучыцельнай лініі рускай літаратуры», Г. Праневіч разам з тым прапануе плённы шлях канкрэтна-гістарычнага аналізу. Не прайшоўшы ў часы позняга сярэднявечча праз стадыю рэнесанснага гуманізму, культура Масковіі адчувала вострую патрэбу ў дзеячах рацыяналістычнага складу. Асветнік з Беларусі Сімяон Полацкі прыйшоў у Маскве на паратунак у самы адказны час яе гісторыі, калі ад культурнай пераарыентацыі дзяржавы залежала яе будучыня.

Мае рацыю Г. Праневіч і тады, калі ў творчасці беларускіх адраджэнцаў XIX і XX стагоддзяў вылучае старабеларускія традыцыі эпохі Рэнесансу і Барока. Відаць, традыцыі гэтыя жывуць не толькі ў паэзіі, але і ў маналагічных формах дзённікаў эпісталярных запісаў, у сучасных споведзях з іх устойлівай патрэбай суб'ектывізаванага, дзейсна-ацэначнага ўспрымання рэчаіснасці.

Плён дыскусіі бачыцца найперш у тым, што перспектыўныя даследчыкі, усведамляючы ролю метадалогіі, выказаліся супраць ператварэння прынцыпаў у шоры, якія засланяюць жыццёвы далягляд. Літаратуразнавец, як і мастак, працуе плённа, калі адчувае жыццёвыя патрэбы нацыі, дакладна ацэньвае характар узаемасувязі літаратуры з жыццём, яе прызначэнне і функцыю ў справе самасцвярджэння этнасу ў чалавецтве, асобы — у грамадстве. Нельга лічыць, што гэты шлях сёння зусім забыты. Нельга таксама не заўважыць і таго, што сучасная крытыка адчувае сябе не зусім упэўнена побач з публіцыстыкай. Яна нібы баіцца абвінавачвання ў эстэтычнай непаўнацэннасці і праз меру падкрэслівае сваю далучанасць да вечнасці, адмяжоўваецца ад удзелу ў ідэалагічных схватках, спадзеючыся, што дэпалітызацыя падвысіць яе эстэтычны рэйтынг. На справе ж атрымліваецца наадварот.

Акрэсленасць у адносінах да праблем нацыянальнага адраджэння ў канцы XIX— пачатку XX стагоддзя спрыяла ўдасканаленню эстэтычных крытэрыяў, садзейнічала інтэнсіўнаму ўзбагачэнню інтэлектуальнага зместу. На змену паэту-гусляру прыходзіў паэт-мысліцель. Крыніца самаруху — у адзінстве (і на гэта ў свой час звяртаў увагу Я. Барычэўскі) ідэалу паэта і грамадзяніна, несумяшчальнасць якіх у рускай рэвалюцыйна - дэмакратычнай паэзіі не лічылася за адхіленне ад нормы. М. Багдановіч на практыцы і ў тэорыі сцвярджаў арганічнае адзінства рацыянальнага і падсвядомага, непадзельнасць грамадзянскага і эстэтычнага ідэалаў, вяртаючы інтэлігента да першароднай цэльнасці продкаў...

Дыскусія, хоць і не стала бурнай, тым не менш засведчыла паварот нацыянальнай свядомасці да зацікаўленага самапазнання сродкамі літаратуразнаўства, паказала, што магчымасці гісторыка-функцыянальнага падыходу яшчэ не вычарпаны.

**Аляксей РАГУЛЯ.**

---

а клапаціліся пра сваю сілу і магутнасць, не хочучы разумець, што сіла і магутнасць дзяржавы ў дабрабыце яе грамадзян. Велізарнейшыя грошы, чалавечы розум выкарыстоўваліся не для дабра чалавека, а супроць яго. Хапала грошай на велізарнейшую армію, на магутнае ўзбраенне, на спадарожнікі-шпіёнаў, на атамныя падводныя лодкі, на звышгукавыя самалёты і не хапала на бальніцы, лякарства.

Будаваліся шыкоўныя будынкі для ЦК КПБ, для абкомаў і райкомаў, шыкоўныя дачы, санаторыі для наменклатуры, а побач стаялі бальніцы са смярдзючымі палатамі, у якіх задыхаліся хворыя дзеці. Дарэчы, бальніца для дзяцей, хворых на цэрэбральны параліч, пра якую гаварылася вышэй, знаходзілася за некалькі крокаў ад будынка ЦК КПБ. Не ведаю, ці змянілася там што-небудзь апошнім часам, пакуль пісалася, выдавалася кніга, дай Бог, каб змянілася, але ўсё роўна, існаванне такой бальніцы ў наш час — ганьба для дзяржавы, якая прыкрывала сваё бессаромныя дзеянні лозунгам — «усё лепшае — дзецям!»

Мы ўсяго адзін год жывём пры новай уладзе, ды і цяжка назваць яе новай, калі ўсе самыя адказныя пасады ў рэспубліцы і сёння займае тая ж самая наменклатура. Вельмі цяжка пераставіць велізарны цягнік на новыя рэйкі і вельмі прыкра, калі і новыя гаспадары жыцця, якія сёння называюцца ўжо дэмакратамі, паказваюць сябе не з лепшага боку. Вельмі многія з іх мараць не пра дабрабыт народа, а пра ўласнае абагачэнне, купляюць замежныя машыны, відэатэхніку і зноў не дбаюць пра дзяцей, пра бальніцы. Зноў хапае грошай на замежны шырспажыў і не хапае на лякарствы,— аптэкі стаяць пустыя, у бальніцах іх таксама няма. Адно спадзяванне — на гуманітарную дапамогу. Можа, замежны капіталіст акажацца дабрэйшым, чым нядаўні камуніст.

Уладзімір Ліпскі прыцягвае ўвагу чытача да розных дзіцячых лёсаў. У гэтым плане цікавы нарыс «Кароль пад канвоем». «Школа, грамадства спужаліся дзесяцігадовага хлопчыка. Ён вылучаўся сярод іншых дзяцей наравістасцю, паводзіў сябе не заўсёды прыстойна, меў і іншыя грахі, і вось ні бацькі, ні школа, ні вышэйшыя педагагічныя ўстановы не прыдумалі нічога лепшага, як запячы гэта дзіця спачатку ў псіхушку, потым за муры і, нарэшце, накіраваць у спецшколу. Варты жалю дыялог на пасяджэнні камісіі райсавета па праблемах падлеткаў. Так і ўяўляеш дарослых дзядзяў і цёцяў за доўгім сталом і перад імі маленькага, як вераб'я, хлопчыка па прозвішчу Кароль, які лепеча:

«— Даруйце мне, калі ласка...»

А тыя насядаюць:

«— Ты растлумач усёй зале (там яшчэ і зала нейкая была), што кіравала табою пры здзяйсненні злачынства?

— Нічога не кіравала...

— Што кіравала табой? Ты ведаў, што гэта злачынства?

— Ведаў,— усхліпвае.— Васечкіну трэба было даміно... Праз акно ўбачылі, забралі...»

І гэтак далей, мусібыць, не адну гадзіну выцягвалі з дзіцяці душу, перш чым так жорстка з ім абысціся. Наўрад ці тая спецшкола выправіць хлопчыка...

Бяда ў тым, што нават тыя дзеці, якія жывуць у сем'ях, часам адчуваюць сябе сіротамі. Змучаныя клопатамі пра хлеб надзённы, бацькі не заўсёды знаходзяць час, каб паклапаціцца пра дзіця, прыгалубіць. А выхаванне патрабуе ад мацеры поўнай самааддачы, як кожны сапраўдны творчы працэс. Да сталага ўзросту павінны ствараць бацькі з дзіцяці чалавека, але адкуль чаму ўзяцца, калі тых бацькоў у свой час таксама не стварылі чалавекамі і яны выхоўваюць сваё дзіця найбольш лаянкаю ды затрэшчынамі.

Паміж нарысамі, публіцыстычнымі артыкуламі Уладзімір Ліпскі змяшчае старонкі ўласнага дзённіка. І ў гэтых запісках асабліва відаць пільнае вока пісьменніка, яго назіральнасць, уменне ўбачыць у эпізодзе, у дэталі сутнасць з'явы.

Кніга напісана моваю, ад якой мы адвыклі ў нашым штодзённым жыцці і досыць рэдка сустракаем у творах, — у ёй шчырасць і спагада, цеплыня і сардэчнасць. Думаю, што кніга гэта не пакіне раўнадушным чытача, а некага, хто заблудзіўся ў цёмным лесе нашага жыцця, можа, і выведзе на дарогу.

**Лідзія АРАБЕЙ.**

---

# «Каб прасеяць бурны бег падзей...»

**ЖНІВЕНЬ**

Ва ўсіх бедах, што былі раней і якія абрынуліся на нашу грэшную зямлю цяпер, многія гатовы вініць каго хочаш, толькі не самога сябе. Таму і выстройваецца дзіўны ланцужок, дзе суседнічаюць антысеміты і сіяністы, партакраты і дэмакраты, нацыяналісты і так званыя «чырвона-карычневыя». Для заспакаення душы, магчыма, і прасцей знайсці чарговага ворага. А для ісціны, для самаачышчэння? Ды з сябе неабходна пачынаць кожнаму! З таго колішняга, які «бег за камсамолам» і займаў чаргу на ўступленне ў партыю. З цяперашняга, гатовага раптоўна стаць святлейшым і чысцейшым за папу рымскага. Але ўся бяда ў тым, што з сябе пачынаць... Як кажуць, і хочацца, і колецца. Падобны бар'ер, не задумваючыся, гатовы пераступіць толькі Асобы.

Яшчэ адно пацвярджэнне таму — новыя вершы П. Панчанкі («Полымя»). Здавалася б, пасля «Паэмы сораму і гневу» наўрад ці можна нешта дадаць на тэму гэтага самаачышчэння. Але калі душа смыліць пякельнай, незагойнай ранай, калі сумленне не дрэмле...

**Даруй, зямля мая, за дробныя грахі,**
**А буйных я не меў:**
**Адданым быў салдатам.**
**Я часам быў сляпы,**
**А часам быў глухі**
**І пеў хвалу**
**Усім чырвоным датам.**

У адным вершы Паэт спавядаецца. У другім— задумваецца. І не толькі над тым, што было, а і над тым, што ёсць. Магчыма, нават у большай ступені. Не задумвацца нельга, бо ў чарговы раз самыя лепшыя спадзяванні ў многім засталіся марнымі: «Абдурылі, задурылі, загалёкалі, і ланцуг — на кожную руку. Мы рабы нікчэмныя і лёкаі і заходняму зайздросцім батраку». І робіцца балюча Паэту: «Адкуль прыйшла той пошасці навала? Нібы ля Магілёва ў час вайны, мне цяжка пазіраць у вочы згаладалых дзяцей... І несці груз віны». А ў трэцім вершы (усяго іх чатыры) пытанне і да самога сябе і да ўсіх: «Божа, дзе знайсці такое сіта, каб прасеяць бурны бег падзей?»

Уласна кажучы, «прасейваннем» гэтым і займаецца літаратура, пазбаўленая ідэалагічных догм, што трымалі яе ў сваіх цісках, вольная ад кан'юнктуры, якая для яе гэта—таксама бяда. І тут я поруч з панчанкаўскімі вершамі паставіў бы «балады савецкага дзяцінства» (аўтарскае вызначэнне жанру) В. Тараса «Жыў-быў хлопчык...» («Нёман»).

Колькі драматычнага, нават трагічнага прапушчана ў іх праз лёс лірычнага героя, які быў сынам свайго часу, і не віна яго, а бяда, што час гэты ў нечым ламаў лёс, фарміраваў яго не так, як хацелася б. Гэта ўласна аўтарская спозедзь і споведзь пакалення паэта. А яшчэ — усведамленне таго, што як бы мы таго ні хацелі, ды не вырвацца нам са свайго часу. Можам яго крытыкаваць, але пражытага не пазбавішся:

**Кліч адраджэння: «Жыве Беларусь!»**
**гремит над Плошчаю Незалежнасці..**
**Отчего же на сердце такая грусть,**
**щемящей полная нежности.**
**по этому мальчику из СССР,**
**по его советскому детству?**
**Советским он был. Из истории СССР**
**ему никуда не деться...**

Па-свойму «прасейвае бурны бег падзей» у лірычных запісах «Трохі смяшней» Я. Брыль («Полымя»). Майстар навелы не забывае, што здаровы смех «з саміх сябе вельмі патрэбны нам і вельмі ў нас рэдкі». І робіць усё, каб праз гэты самы смех грамадства хоць крыху магло ачысціцца ад бедаў колішніх і цяперашніх. Назіральнасці Я. Брыля па-ранейшаму можна толькі пазайздросціць. Як, напрыклад, у гэтай навеле — «Клопат». Пісьменнік расказвае, як доўга чакалі на пахаванне папа. Нарэшце, ён з'явіўся — «нярослы, сяк-так валасаты, чорны, як асмалак». Ды не адзін, а з матушкай за рулём у «Жыгулях» і нейкай старой. «Ну што ж, людзі бываюць розныя...», — як бы змякчае ўражанне аўтар. «Ды вось у хаце ён загалёкаў каля труны такім казліным тэнарам, што хоць ты, як той дурань, у казцы, вазьмі ды не стрывай, засмейся. Матушка з тою старой памагаюць, як тры дні не еўшы. Аніякай урачыстасці!... А потым яшчэ і пачуў — матушка за рулём таму, што самога за п'янку на тры гады пазбавілі правоў. Чацвёра дзяцей. А ён яшчэ б'е яе... Клопат з кадрамі! Гэта не тое, што па тэлевізары, дзе цяпер гэтулькі золата, рызаў, барадаў...»

Аповесць жа В. Карамазава «Краем белага шляху» (таксама ў «Полымі»), здавалася б, зместам сваім не выходзіць за рамкі традыцыйных развагаў аб няўдалых сем'ях, дзе муж ці жонка (у дадзеным выпадку жонка) п'янствуюць. Аднак аўтару ўдалося так заглыбіцца ў характар галоўнага героя доктара Валетава, што на першы план выступаюць праблемы духоўнасці і бездухоўнасці, камунікабельнасці чалавека ў сучасным грамадстве.

Уладзімір Саламаха ў аповесці «Прывід у скураным крэсле» (у «Маладосці» змешчаны пачатак) звяртаецца да жыцця сённяшняй творчай інтэлігенцыі, а калі канкрэтней — кінематаграфістаў. Пісьменнік стварае праўдзівыя, пераканаўчыя вобразы.

Увогуле, прадстаўнікі малодшых пакаленняў упэўнена тораць сваю сцяжыну ў літаратуры. Падрастае і дастойная змена. Узрадавалі ў «Маладосці» апавяданні А. Зэкава «Начны вартаўнік», «У зацішку», «Кузьма з вёскі Сунічкі» («Маладосць»). Аўтар назіральны, уважлівы да ўнутранага стану герояў, не пазбаўлены гумару, асэнсоўвае сучасныя калізіі.

Жнівеньскі нумар «Беларусі» цалкам прысвечаны 1000-годдзю хрысціянства на Беларусі. Ад звароту да чытача мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта «Хай будзе богаслаўленне з усімі Вамі!» да іншых матэрыялаў праводзіцца асноўная думка — духоўнае ачышчэнне немагчыма без веры.

І на падагульненне — радкі В. Зуёнка ў «Маладосці»:

**На полі, як сусвет, — жытнёвы плёс.**
**Дарог няма тут, як і не было.**
**Віецца толькі, як загадка-лёс,**
**Узмежкам сцежка ў роднае сяло.**

«Прасейваючы» падзеі, прапускаючы іх праз сябе, сваё светаўспрыманне, ніколі не забудзьма пра гэта: «Як сусвет, — жытнёвы плёс».

**А. АН-ЕВІЧ.**

**Уладзімір СКАРЫНКІН**



# Я хросны сын Расіі

Напрыканцы 1943 г. я разам з маці быў вывезены немцамі ў г. Бромберг (зараз — г. Быдгашч). Там, у палоне, відаць, спадзеючыся, што Бог злітуецца і аблегчыць долю сына, маці ахрысціла мяне. Хроснымі бацькамі маімі былі рускія людзі Кацярына і Пётр Кандаковы з г. Тосна, якія жылі з намі ў адным бараку.

**Не ў Беларусі роднай,**
**не ў Расіі —**
**У час вайны ў нямецкай старане**
**Пяцігадовым вязнем ахрысцілі**
**У праваслаўнага папа мяне.**

**Да бацькі хроснага і маці хроснай**
**З матуляй роднай сцежак-пуцявін**
**Не адшукаў пасля вайны я ў Тосна.**
**І усё-ткі я —**
**Расіі хросны сын.**

**Але, на жаль, у матухны Расіі**
**Не горнецца да хрэсніка душа.**
**Разбэшчвалі Расію і труцілі**
**Гашыш ляноты,**
**злосці анаша.**

**І шчодрая, і прагная не ў меру —**
**Стараецца перахрысціць усіх**
**Яна ў сваю назойлівую веру**
**Не толькі з дапамогаю «шуціх»*.**

**Кідала і ў крывавыя купелі**
**Даволі часта хрэснікаў яна.**
**Мне «Калыханку» Лермантава пелі**
**У дзень хрысцін матуля і вайна:**
**«Но отец твой старый воин,**
**Закалён в бою,**
**Спи, малютка, будь спокоен,**
**Баюшки-баю...»**

**А ў гэты момант —**
**вой загартаваны —**
**Бег у атаку бацька мой стары.**
**Крывавяцца чырвоныя цюльпаны**
**Ля Одэра —**
**на бацькавай гары...**

**Будзь, матухна,**
**сапраўднай хрысціянкай,**
**Не забівай, не абкрадай —**
**шчыруй.**
**З сявенькаю, з матыкаю, з кіянкай**
**І з хрэснікамі ўсімі пасябруй.**

**І, веру, ты ачысцішся душою**
**І будзеш зноўку сустракаць паслоў,**
**Паблісквающы, як раней, парчою**
**І золатам царкоўных купалоў.**

# Касцёл і царква ў Глыбокім

**На плошчы люднай,— роўныя прад**
**Богам,**
**Аднолькавыя для маіх вачэй,—**
**Касцёл з царквой спрачаюцца**
**ў Глыбокім.**
**Хто і на колькі метраў з іх вышэй.**

**Анёлам лётаў і сталеў душою**
**Я ў гарадку з разбомбленай царквой.**
**Абедню я не назаву імшою,**
**Хрысціцца не прывыкну ўсёй рукой.**

**Ды мне заўсёды сагравае сэрца**
**Сваёю прыгажосцю і касцёл.**
**Ніколі не абразіць іншаверца**
**Рахманы, міратворны мой анёл.**

**І крыўдна, што няма ў маім павеце**
**Ні гэткага касцёла, ні царквы.**
**Касцёл з царквой на існаванне ў свеце**
**Спрадвеку маюць роўныя правы.**

**На жаль, яны — і без дазволу Бога —**
**Спрачаюцца не жартам, а ўсур'ёз.**
**З-за спрэчак іхніх пралілося многа**
**На Беларусі і крыві, і слёз.**

**Гучаць навокал нашанскія словы**
**І песні беларускія, аднак**
**Касцёл з царквой знайсці агульнай мовы**
**Не могуць і ў Глыбокім аніяк.**

**На плошчы люднай,— роўныя прад**
**Богам,**
**Аднолькавыя для маіх вачэй,—**
**Касцёл з царквой спрачаюцца**
**ў Глыбокім,**
**Хто з іх бліжэй да Бога — хто вышэй.**

●

**Звыкся з жахамі і дзівосамі,**
**Ды ніколі ў былыя дні**
**Не праменілі вочы восені**
**Столькі ласкі і цеплыні.**

**Быццам на невылечна хворага,**
**Лістабойка на свет глядзіць.**
**Ціхім ціўканнем,**
**ціхім шорахам**
**Нам стараецца дагадзіць.**

**Зразумела, відаць, што мітынгі**
**Надакучылі надта нам.**
**Многа клопатаў у карміцелькі,**
**Бо не верыць балбатунам.**

**Абагрэць,**
**накарміць стараецца**
**Сопкай бульбай з грыбамі нас.**
**Тым, што шмат гультаёў,**
**здараецца,**
**Абураецца іншы раз.**

**З ціхай крыўдаю і маркотаю**
**Зорам скардзіцца,**
**што ў яе,**
**Каб спраўляцца з усёю работаю,**
**Часу светлага не стае.**

**Непакоіцца, каб сабралі мы**
**Увесь — да бульбінкі —**
**ураджай.**
**Арабінавымі караламі**
**Упрыгожыла змрочны гай.**

**Пэўна, воблачка над дуброваю**
**Ёй паспела наваражыць,**
**Што цяжкую зіму,**
**суровую**
**Давядзецца нам перажыць.**

# Белыя вершы зімы

**Збег я далей ад крыклівай гурмы**
**Смутнай часінаю,**
**Слухаю белыя вершы зімы**
**Над ручаінаю,**

**Хоць не шукала ніколі душа**
**Утульнага седала...**
**Кнігаўкі роспач,**
**адчай мураша —**
**Усё яна зведала.**

**Ператварыцца хацелася мне**
**У гордага сокала.**
**Шчасце, здавалася,**
**на скакуне**
**Міма працокала.**

**І нечакана яго я знайшоў —**
**Вось яно, ціхае,**
**Тут на зямлі,**
**над жытлом мурашоў,**
**Ценькае, ціўкае.**

**Вось яно скача на гонкай сасне**
**Рыжай вавёркаю.**
**Вось яно свеціцца,**
**зззяе на дне**
**Першаю зоркаю.**

**Срэбрам з галінак тугіх на зямлю**
**Ціха струменіцца,**
**Тварам жанчыны,**
**якую люблю,**
**Шчодра праменіцца...**

**Збег я далей ад крыклівай гурмы**
**Смутнай часінаю,**
**Слухаю белыя вершы зімы**
**Над ручаінаю.**

---

«Шуціха» — фантан у Петрадварцы.

**Уладзімір АРЛОЎ**



# Жнівеньскія версэты

## Манета

**Гэтую манету знайшоў ты ў маленстве пасля паводкі на дзвінскім беразе.**

**Вызвалялася манета ад пацін і зноў пакрывалася ёю.**

**Сціраліся на манеце цьмяныя надпісы — выступалі новыя.**

**Знікалі на ёй старыя гербы й партрэты валадароў — узнікалі новыя гербы й партрэты.**

**Купляў ты за гэтую манету нянавісць.**

**Купляў за яе славу.**

**Нават каханне купляў ты за яе.**

**Ды кожны раз вярталася да цябе твая манета, бо танны тавар браў ты.**

**Прыйдзеш на дзвінскі бераг пасля паводкі, запытаешся ў сябе самога: дзеля чаго знайшоў ты ў маленстве гэтую манету!**

## Пытаю дарогу

**Пытаю дарогу да магілы на старасвецкіх могілках ля сіняй бухты.**

**Спярша будзе кавалак цёмнае брукаванкі, кажа сівы майстра, што высякае на помніку літары, потым кавалак брукаванкі ружовае, а за крыжам з чорнага граніту — тры прыступкі да вашае магілы.**

**Спярша будуць кіпарысавыя прысады, кажа стары садоўнік, што падстрыгае кусты глогу, потым лістоўніца сярод дроку, а за ёю — тры прыступкі да вашае магілы.**

**Зайздрошчу старым: няма ў мяне іхніх прыкметаў.**

**Цешуся, бо прыкметы мае — да самых прыступкаў — мне аднаму належаць.**

**Зінаіда ДУДЗЮК**

# ПАЛОННІЦА ЗОНЫ

## Апавяданне-фантазія

Жанчына ішла між соснамі, мякка правальвалася ў аксамітны мох, услухоўвалася ў лясны гул, старалася адпачыць душою. Яна любіла лес з маленства, затоена і ціха, сумавала без яго. Ёй дастаткова было ўглядзець з гарадской ускраіны сінюю палоску, каб задаволіць сэрца. Калі гарызонт быў голы, зямля ёй здавалася безабароннаю і хвораю.

Была грыбная пара, але жанчыне грыбы не трапляліся. Высокі лес неспадзявана скончыўся, і пачаўся непралазны малады сасоннік. На адным з дрэў жанчына заўважыла шыльдачку з надпісам: «Забаронная зона». Невядома, што хавае ў сабе гэты падлесак, магчыма, там вайсковае стрэльбішча. Яна вярнулася назад да высокіх соснаў, прыпынілася на сухой паляне, сціпла ўпрыгожанай ружаватым верасам, паглядзела ўгору, дзе на фоне шэра-блакітнага неба плылі вершаліны соснаў. І сама нібы ўзнялася над сабою, з лёгкаю душой адчула, што наперадзе яшчэ шмат светлых дзён. Вось падрасце непаслухмяны сын, мо паразумнее і падабрэе; муж пастарэе і паспакайнее, знікне паміж імі адчужанасць і хлусня, і зажывуць яны нарэшце па-людску...

Сасновы лес паступова перайшоў у чарналессе, шчодра размаляванае восенню ў барву і вохру. І зноў ёй трапілася на вочы тая самая шыльдачка, толькі ўжо прымацаваная да слупка. У восеньскай раскошы фарбаў усё часцей пачалі трапляцца кроны, кранутыя чарнатою, нібы абгарэлыя, нават у паветры адчуваўся салодка-гаркаваты пах. І раптам яна ўбачыла перад сабою мёртвы лес: чорныя стаўбуры з натапыранымі галінамі тырчэлі ў неба, як рукі скамянелых істот. Шэрая лістота ўсцілала дол і распадалася пад нагамі на труху. Ёй зрабілася жудасна, нібы яна трапіла ў тую мясціну, дзе адбылося д'ябальскае чараўніцтва.

Жанчына тузанулася, каб бегчы адсюль і не азірацца, як нечакана дзве рукі леглі ёй на плечы. Яна ў адначассе спалохалася і ўзрадавалася гэтым рукам. Хоць якая жывая душа побач. Яна азірнулася і ўскрыкнула не столькі ад страху, колькі ад нечаканасці. За яе спіною стаялі двое мужчын у процівагазах, апранутыя ў бліскучыя камбінезоны, шырокія для іхніх субтыльных постацяў.

— Пусціце мяне! Што вам трэба? — закрычала яна.

Адзін з мужчын жэстам супакоіў яе, дастаў з сумкі запасны процівагаз, падаў ёй, ускінуў на плечы зялёны плашч, даў пальчаткі, пачакаў, пакуль яна апранецца, паказаў рукою наперад, загадваючы ісці.

Думкі ж блыталіся, яна сілілася сабраць іх: «Гэта атручаны лес... Што ж цяпер? Як я?..» Пах гарэлага лесу пяршыў у горле, на вочы час ад часу наплывала непрыемная вільгаць, супакойвала толькі тое, што побач былі людзі, якія, напэўна, хацелі ёй дапамагчы. Праваднікі мелі танклявыя, амаль хлапечыя постаці. Яна зразумела, што гэта маладзенькія салдаты з бліжэйшага вайсковага аб'екта.

У хуткім часе яны выбіліся на бетонку. Дзіўна, што яна, ведаючы гэты лес, ніколі не бачыла гэтае дарогі. Мужчыны прыпыніліся і на мігах паказалі, што вымушаны завязаць ёй вочы. Яна хацела адмовіцца, абурыцца, але як гэта зрабіць у процівагазе.

Вочы развязалі толькі ў памяшканні, дзе яна ўбачыла перад сабою стомленага, яшчэ не старога чалавека з грубаватымі рысамі твару, з капою сівых кучаравых валасоў над шырокім ілбом, зрэзаным маршчынамі. Ён напружана паўзіраўся ў яе вочы, усміхнуўся, ветліва сказаў:

— Добры дзень! Здыміце, здыміце гэты камуфляж, тут вам нішто не пагражае.

Яна адклеіла ад твару ўспацелую, ліпкую гуму процівагаза, зняла плашч і пальчаткі, падала маладому праваднiку, што стаяў побач, адказала:

— Добры дзень. Прабачце, не ведаю, як да вас звярнуцца... Я заблудзілася, дапамажыце мне, калі ласка...

# Памяць

Памяць любіць павучка, што жыве за старым гадзіннікам.

Памяць любіць жаўтлявую музыку «Beatles».

Памяць любіць матылькоў на пыльным падвоканні.

Памяць любіць сухія гарачыя рукі.

Памяць любіць вусны, што ўмеюць піць да дна.

Памяць любіць імя, у якім тоіцца сотня імёнаў.

Памяць таксама любіць.

Пажата жыта даўно, і поплаў мой скошаны.

Сонца сядае.

Глыбее ў дубовай асадзе бабуліна люстра.

# Вучыла бабуля

Не спі, калі сонца сядае, вучыла бабуля, бо заснеш з ім разам, а ўранні ўжо не прачнешся.

Не глядзі ў люстэрка апоўначы, бо растанеш у ім, як солі драбінка ў студні.

Не любіся з дзеўкамі ў жыце і ў красках не любіся, бо колькі каласоў зломіш — столькі людзей ад голаду сканае, а колькі красак звяне — столькі дзетак на свет не народзіцца.

# Спадарожніцы

Справа ад мяне, рука ў руцэ, ідзе Каханая.

Злева, на адлегласці выцягнутай рукі, ідзе Смерць.

Шчасце грае на тварах у абедзвюх маіх спадарожніц.

Каханая ведае: я кахаю яе так, як не кахаў раней ніколі.

Смерць радая за нас, бо ведае, што гэта праўда.

Смерць памятае справа ад мяне іншых жанчын.

Яна нарадзілася разам са мною,
яна была спачатку немаўлём,
потым тэпала побач на дзіцячых
ножках,
потым стала дзяўчынаю і назаўсёды закахалася ў мяне.

Смерць не раўнуе: яна ведае, хто будзе маёй апошняю жанчынай.

Свеціць сонца.

Цёплы вецер блытае нашы валасы.

Мы ідзём утраіх.



Фота В. МАЙСЮКА.

— Завіце мяне проста доктар. Не хвалюйцеся, мы пастараемся вам дапамагчы. У нас здарылася невялічкая аварыя, таму ўсіх людзей, якія будуць трапляць у атручаную зону, мы вымушаны затрымліваць і даследаваць.

— А як жа мая сям'я? Трэба ж папярэдзіць...

— Напішыце вось тут, калі ласка, усё, што палічыце патрэбным, каб мы здолелі адшукаць вашага мужа ці каго... — ён падаў жанчыне паперу і ручку.

Яна скончыла пісаць, аддала яму папяровы лісток, ён пастараўся нязмушана ўсміхнуцца:

— Як вы сябе зараз адчуваеце?

— Ведаеце, я вельмі спалохалася, калі трапіла ў мёртвы лес, а пасля яшчэ вашы хлопцы... У мяне дагэтуль калоціцца сэрца, туман перад вачыма, горыч і сухасць у горле...

— Гэта пройдзе. Зараз я выклічу фельчара, ён возьме ў вас кроў з вены на аналіз. А пасля вы зможаце адпачыць у ізалятары. Туды ж вам прынясуць абед, — сказаў доктар.

Ён націснуў кнопку на пульце. На выклік з'явіўся маладзенькі фельчар у рэспіратары і шэрай уніформе. Доктар задаволена акінуў позіркам падначаленага. Доктара заўсёды здзіўляла празмерная стараннасць і абавязковасць гэтага маладога чалавека. Вось і зараз ён апрануты па самых строгіх патрабаваннях тэхнікі бяспекі. Няблага было б узяць з яго прыклад.

Фельчар павёў яе па доўгім калідоры. Скрозь былі жалезныя дзверы, і нідзе, нават у кабінеце доктара, яна не бачыла вокнаў. Ёй здалося, што за гэтымі цяжкімі дзвярамі месцяцца страшныя тайны, а мо там жывуць страх і адзінота, сабраныя з усяго свету. І калі раптам дзверы адчыняцца, дык страх запалоніць усю зямлю, людзі пачнуць баяцца нават уласных ценяў. Яна азірнулася на фельчара. Вочы ягоныя былі трывожныя, нібыта ён адчуваў тое ж самае.

У канцы калідора фельчар націснуў кнопку на сцяне. Перад імі расчыніліся дзверы ў невялічкі пакой, замкнёны і глухі, пасярод якога стаяў ложак, засланы белаю капаю, побач месцілася невялічкая тумбачка, на ёй свяцілася лямпа з аранжавым абажурам. Фельчар прапусціў жанчыну ў ізалятар. Дзверы за ім нячутна зачыніліся, зліліся са сцяною.

— Я сапраўды атруцілася? — запытала яна, закасваючы рукаў.

Ён пахітаў галавою, супакойваючы яе. Іголка ў ягоных руках спрытна знайшла вену, уджаліла, і жанчына ўбачыла, як цёмныя кроплі крыві расцякаюцца па шкле прабіркі.

Фельчар склаў свае прылады ў хітры чамаданчык, што расчыняўся, нібы кніга, і выйшаў. Яна засталася адна, адчула млосць ва ўсім целе, бездапаможна акінула позіркам пакой, раптам падалося, што сцены і столь зрушыліся з месца, паплылі, закружыліся, нервовы спазм сціснуў горла. Жанчына ўткнулася тварам у падушку і заплакала.

Фельчар паклаў перад доктарам лісток паперы, спісаны літарамі і лічбамі. Доктар прабег вачамі напісанае, адзначыў, што формула крыві жанчыны мае даволі вялікае адхіленне ад нормы, сказаў:

— Ваша задача — паназіраць за ёю. І ніякае дапамогі! Ідзіце.

І зноў пашкадаваў, што аніяк не засцярогся, размаўляючы з жанчынай.

Ён сеў да камп'ютэра, звычайным рухам націснуў некалькі кнопак: на экране з'явіліся і пабеглі сінусоіды, зубцы. Камп'ютэр быў зусім новы, нядаўна яго набылі ў камплекце з некалькімі спецложкамі, размешчанымі ў ізалятарах. Дастаткова было пакласці хворага на такі ложак, як адразу ўсе звесткі пра стан яго здароўя можна было чытаць на экране дысплея. Доктар адчуваў тое знаёмае хваляванне, той азарт, які заўсёды ахопліваў яго перад адкрыццём, магчыма, тое ж самае адчувае заядлы карцёжнік перад выйгрышам.

Ён сачыў за лічбамі і графікамі, што мяняліся і мільгалі на экране, бачыў, як няўхільна аэразоль перамагае жывыя клеткі.

— У яе сутаргі. Стан крытычны, — пачуўся ў дынаміку бязвольны голас фельчара.

— Пра што вы? — недаўменна запытаўся доктар, не жадаючы адрываць позірк ад дзівоснага відовішча.

— Жанчына памірае, — бясколерна паўтарыў фельчар.

— Памірае? Чаму? Доза мізэрная. Мышкі на такія дозы амаль не рэагавалі.

Доктар задумаўся. Хутчэй за ўсё ён не ўлічыў фактар часу. Так, дозу трэба было памножыць на час уздзеяння, як і ўсё ў жыцці варта множыць на час. Сам ён нібы забыўся на існаванне часу, вымяраў пражытае толькі працаю. А па сутнасці праца — той самы наркотык, які непрыкметна высмоктвае сілы і розум, асабліва калі працуеш з натхненнем і жаданнем, не заўважаеш нават, калі прыходзіць старасць.

— Дайце ёй інгаляцыі кіслароду і транквілізатары, у крайнім выпадку — эфірна-кіслародны наркоз. І без панікі. Я тым часам звяжуся з цэнтрам...

Сёння доктар парушыў усе інструкцыі, і пра гэта пакуль не ведалі ў цэнтры. Праўда, выкіды атрутных рэчываў здараліся ў лабараторыі і раней, але такая сур'ёзная аварыя, як сёння, адбылася ўпершыню. За ноч лес загінуў на плошчы значна большай, чым ахоўная зона. Самае непрыемнае, што ў атручаны лес маглі трапіць людзі, якіх не заўважаюць ахова. Што, уласна кажучы, і здарылася.

Пяць гадоў патрапіў доктар на вынаходніцтва аэразолю, які заказала ваеннае ведамства. Вучонага не цікавіла, куды і як будзе выкарыстана рэчыва, ён меў патрэбу творча працаваць, дасягаць пастаўленае мэты, бо вcase верыў у існаванне справядлівасці не толькі на небе, але і на зямлі. За свае вынаходніцтва і талент ён быў шчодра ўзнагароджаны, займеў пэўныя прывілеі і адмятаў усякія сумненні, што часам узнікалі ў душы, нарэшце марнасці і нават злачыннасці ягонай навуковай працы.

Ён любіў сваю працу, ганарыўся прывілеямі, што яшчэ магло радаваць старога халасцяка, што за навукаю так і не займеў сям'і? Ды якое асабістае жыццё можа быць у чалавека, далучанага да дзяржаўных тайнаў, калі за кожным тваім крокам сочыць нядрэмнае вока ўнутранай службы. І не так проста знайсці тую адзіную жанчыну, неабходную, як паветра, а звязвацца абы з кім не варта. Праўда, некалі ў студэнцкія гады сустрэлася яму дзяўчына, з-за якой ён страціў спакой, але яна выбрала дацэнта. Для яго гэта была цяжкая страта. Хапіўшы з гора віна, ён хацеў выкінуцца з чацвёртага паверха і зрабіў бы гэта, каб не сябар, што ўтрымаў за крысо пінжака. Тады ён толькі разбіў сабе лоб, знак застаўся на ўсё жыццё. На канікулы да маці прыехаў схуднелы і прыгнечаны. Маці доўга да яго прыглядалася, пасля сказала: «Не бядуй, твая дзяўчына ад цябе не ўцячэ». Яму нічога не заставалася, як змірыцца з лёсам, пайсці з галавою ў навуку і працу.

Доктар уключыў тэлекамеру. На сцяне засвяціўся экран. Ён убачыў твар жанчыны, прыгожы, яшчэ даволі маладым. Прывабна акрэсленыя вусны, тонкія, нібы ў здзіўленні прыўзнятыя бровы, ясната чала. Відаць, прыступ задушша адступіў, яна супакоілася і заснула. Рэдка хто з людзей умее прыгожа спаць. Гэтыя няўцямна разяўленыя раты, раскіданыя рукі, ненатуральныя позы — шмат што можа сказіць чалавека. У яе быў твар, на які хацелася глядзець. Невядомае хвалюючае пачуццё абудзілася ў ім, забілася частым пульсам, ён засаромеўся сам сябе. Стала шкада яе, як шкадуюць хворых дзяцей. Раптам па яе твары прабег цень, сутарга скамечыла рысы. Жанчына пачала размахваць рукамі, стагнаць і трызніць.

Доктар зморшчыўся, як ад болю, выключыў тэлекамеру. Патрэбна было нарэшце папярэдзіць начальства. Ён набраў нумар галоўнага дыспетчара, расказаў пра аварыю і вынікі. Дыспетчар не спяшаўся перадаваць непрыемную вестку наверх, падрабязна распытваў пра жанчыну, якая трапіла ў атрутную зону. Калі даведаўся, што яе трымаюць у ізалятары лабараторыі, абурана ўзарваўся:

— Вы што сабе думаеце? Ды праз яе ўся лабараторыя можа ператварыцца ў вар'яцкі дом! Пасылаю санітарную машыну! Усіх, хто быў з ёю ў кантакце, тэрмінова змяшчайце ў ізалятар.

— Мяне — першага...

— Як? Вы? Гэта злачынства!

— Мабыць, усё маё жыццё ў сценах гэтай установы — злачынства, і ваша таксама, шаноўны!

— Ды вас гнаць трэба!

— Сёння ж сам напішу заяву на звальненне.

— Ха-ха! Заяву ён напіша! Няўжо ты думаеш, — нечакана дыспетчар перайшоў на «ты», — што цябе выпусцяць з тою інфармацыяй пра ваеннае ведамства, якой ты тут нахапаўся? Ды ты згнееш малодшым лабарантам, калі няздатны кіраваць лабараторыяй. Гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым...

Што будзе ў горшым выпадку, ён так і не пачуў.

Доктар зноў уключыў тэлекамеру. Жанчына задыхалася, трызніла, ускудлачаныя валасы закрывалі твар. Ён нервова выключыў тэлекамеру. Адчуў слабасць і млявасць, адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы, падумаў, што страшэнна стаміўся ад напружанай працы, абмежаванага кола людзей і ад сябе самога. Да ўсяго трэба збірацца ў цэнтр, а там прывяжуцца са сваімі камісіямі і праверкамі.

Ён пачаў парадкаваць паперы на стале, і калі да горла падступіў задушлівы камяк, з-пад ног паплыла падлога, нібы лінза, выгнулася процілеглая сцяна, ён яшчэ паспеў падумаць, утрымліваючы на некалькі хвілін свядомасць: «Галюцынацыі? Ужо? Так неасцярожна...» І, здаецца, не ён, а хтосьці іншы, каму ўсё роўна, дадаў: «Так і трэба».

Здалёку пачуўся голас маці. Яна стаяла на маладым лужку, ружова-жоўтым ад смолак і курасляпу, у той самай сукенцы, у якой яе пахавалі. Было балюча глядзець на сляпучае сонца. І ён, прыжмурыўшы вочы, кінуўся насустрач маці, натыкаючыся на сонечныя промні, як на пікі. Яна клікала яго, махала рукою, адплывала і ўрэшце ператварылася ў агеньчык, знікла ў марыве. Тады свет пачаў перакульвацца, неба падала на зямлю, а зямля імкнулася стрэсці са сваёй паверхні чалавека, як непатрэбшчыну. Ён, ахоплены страхам, да знямогі біўся ў дзікім хаосе, а пасля доўга ляцеў у цемру, пакуль душа ягоная не стала чорным, як той атручаны лес, згусткам.

ТЭАТР

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# ПРА СВАЮ ПРАФЕСІЮ

**Неяк у знакамітага, папулярнага тэатразнаўцы і крытыка Г. Н. Баяджыева запыталі:**

**— А навошта ўвогуле патрэбна крытыка!**

**Той крыху ў жартаўлівым тоне адказаў:**

**— Каб не даць памерці тэатру.**

**Мне асабліва запала ў памяць гэта фраза. Ведаю, што яе можна трактаваць па-рознаму, у чым не раз упэўніваўся ў розных аўдыторыях. Тут жа абмяжоўваюся толькі адным сэнсам, асабіста для мяне найбольш блізкім і дарагім.**

У НАС ПРЫНЯТА лічыць, што тэатр складаецца з трох асноўных кампанентаў: літаратуры, г. зн. драматургіі, уласна сцэнічнага мастацтва і гледачоў.

Сапраўды, тэатр як від мастацтва пачынаецца з драматургіі. Былі часы, калі глыбокая драма менавіта як твор літаратуры нібыта станавілася ўпоперак дарогі для рэжысёраў, перашкаджала іх поўнаму самавыяўленню і самасцвярджэнню. Яе спрабавалі падмяніць гэткімі п'есамі - сцэнарыямі, напісанымі пад манеру пастаноўшчыка, а папросту кажучы — звычайнымі літаратурнымі сурагатамі. Спектаклі паводле такіх твораў, як правіла, таксама выходзілі сурагатнымі, толькі на ўзроўні эрзац-мастацтва.

У сваю чаргу цяпер наўрад ці хто стане сцвярджаць, што ўласна тэатральнае мастацтва, па самой прыродзе складанае, сінтэтычнае, якое ўбірае ў сябе, канцэнтруе рэжысёрскую і акцёрскую творчасць, працу сцэнографаў, музыкаў, з'яўляецца другасным у дачыненні да драматургіі, толькі выканальніцкім. П'еса без тэатра, без яго творцаў у лепшым выпадку застанецца толькі для чытання, так бы мовіць, чыста літаратурным творам.

Няма сцэнічнага мастацтва і без гледачоў. Калі, скажам, кнігі, якія не чытаюць людзі, або карціны мастакоў, не ўспрынятыя гледачамі, усё ж застаюцца ў адпаведных аналах і могуць, асабліва калі сучаснікамі ўчынена да іх несправядлівасць, дачакацца лепшых часоў, знайсці прызнанне ў нашчадкаў, то тэатр такіх умоў поўнасцю пазбаўлены. Спектакль для зусім пустой залы не іграецца, і калі не будзе гледачоў, то і тэатра не будзе, ён знікне, адыдзе ў нябыт. Прытым гледачы — не проста маса, збор людзей. Яны ў тэатры — актыўныя дзейныя асобы. Калі, працягваючы аналогію, чытач ніяк не можа паўплываць на змены ў выдадзенай кнізе ці глядач у завершанай мастаком карціне, то публіка на спектаклі, у прысутнасці якой ён і творыцца, сваёй непасрэднай рэакцыяй аказвае ўздзеянне—у лепшы ці горшы бок,—і нярэдка вельмі істотнае.

Усё гэта на сённяшні дзень ісціны-аксіёмы, і я пачаў з іх не дзеля парожняга пустазвонства. У той агульнапрызнанай трыядзе, якая здзяйсняе спектакль, самым актыўным чынам уплывае на яго лёс (п'еса — мастацтва тэатра — глядач), не хапае яшчэ аднаго, няхай сабе па ліку чацвёртага, але, тым не менш, вельмі важнага звяна: крытыкі.

Выказваю такую думку з упэўненасцю, хаця і ўяўляю, якую яна можа выклікаць рэакцыю неўразумення. Маўляў, крытыкі ж не ўдзельнічаюць у стварэнні спектакля, а калі часам і адыгрываюць нейкую ролю ў яго далейшым лёсе, то хіба што адмоўную. Але давайце разбірацца.

Нядаўна вядомы рускі крытык Анатоль Смялянскі, пабываўшы ў Амерыцы і пабачыўшы тамтэйшыя парадкі на свае вочы, расказаў пра такі факт: калі вельмі ўплывовая газета апублікуе рэцэнзію на тэатральны твор, у якой будзе давацца адмоўная ацэнка пастаноўкі (рэцэнзія з'явіцца абавязкова назаўтра пасля першага прэм'ернага паказу), гэтую пастаноўку можна смела здымаць з рэпертуару. Яна, што называецца, поўнасцю правалілася, на спектакль не пойдзе публіка. I тут усё адназначна, няма ніякіх альтэрнатыў.

У нас такога няма і, здаецца, не было. Нават у самыя змрочныя часы, калі даволі вольна гарцавала аглабельная крытыка, пастаноўку пасля разносаў не здымалі з рэпертуару. У нашым перакуленым уверх дном грамадстве нярэдка здаралася адваротнае—такая падзея магла паслужыць своеасаблівай рэкламай: абавязкова трэба паглядзець апальны спектакль, там нешта ж ёсць. А забаранялі спектаклі адпаведныя органы, улады, высокія чыноўнікі, якія да тэатральнай крытыкі не мелі ніякага дачынення.

На цяперашні ж час у нас склалася такое становішча, што крытыка існуе як бы сама, а тэатры таксама самі па сабе. I ўздзеянне адной на другое, калі іншы раз і прасвечваецца, то вельмі і вельмі нязначнае. Словам, маем што маем. I гэтыя радкі пішуцца не з амбіцыёзнымі намерамі заклікаць даганяць Амерыку, пераймаць яе тэатральныя парадкі. Як гаворыцца, кожнаму сваё, і дзякаваць Богу. Гэта, аднак, не пазбаўляе права нашу крытыку заняць сваё адпаведнае месца, якое ёй належыць, прынамсі, павінна належаць у тэатральным мастацтве.

СЦЭНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ — тут зноў не абысціся без прапісных ісцін — самая «смяротная» з усіх іншых відаў мастацтва. Яна фактычна жыве толькі ў тыя гадзіны, хвіліны, імгненні, калі непасрэдна здзяйсняецца на падмостках. Нават адзін і той жа спектакль нельга дакладна, як, дапусцім, кінастужку, паўтарыць другі раз. Ён у нечым ужо будзе іншым. Дык вось, хто пра ўсё гэта — пра творчасць рэжысёраў, мастакоўскія азарэнні, зіхатлівыя ўспышкі тэмпераменту, імправізацыйныя знаходкі акцёраў, набыткі музыкаў, сцэнографаў,—можа і нават прафесійна абавязаны пакінуць памяць у нашчадкаў, зберагчы для духоўнай спадчыны нацыі, народа? Найперш і галоўным чынам — крытык. (Я тут спецыяльна не размяжоўваю прафесію крытыка і тэатразнаўцы, рэзкага водападзелу, лічу, няма, ёсць толькі розны род заняткаў па службе — навуковы супрацоўнік ці журналіст, а самі прафесіі звычайна сумяшчаюцца: бо што за крытык, калі ён не знаўца гісторыі і тэорыі тэатра, ці што за навуковец, калі не валодае журналісцкім пяром, не ўмее жыва і аператыўна пісаць пра сучаснае сцэнічнае мастацтва).

Ёсць, праўда, тэхнічныя сродкі запісу спектакляў, і такія запісы можна захоўваць у фондах. З гадамі сама тэхніка, несумненна, будзе ўдасканальвацца, ды, відаць, не векаваць нам з такімі дзікімі дэфіцытамі на плёнку. А можа, вынайдуць і якія-небудзь іншыя, больш зручныя і мабільныя, сродкі. Але і тады крытыка застанецца і будзе патрэбна, як і цяпер. У пацвярджэнне напрошваецца паралель з уласна сцэнічным мастацтвам. Колькі ўжо разоў прарочылі яму блізкую пагібель, асабліва з-за неканкурэнтнасці з новымі тэхнічнымі сродкамі кіно. А тэатр як жыў, так і жыве, і жыць будзе. Бо ніякае іншае мастацтва не заменіць акцёра на падмостках, яго сапраўдных слёз ці смеху, увогуле жывой душы.

Дык вось, тэхніка можа больш ці менш дакладна зафіксаваць спектакль, але як бы адасоблена, збоку, менавіта тэхнічна. А ён жа жыве не сам па сабе, а ў кантэксце свайго часу, праблем, дачыненняў, адпаведнай ці не адпаведнай на той канкрэтны перыяд эстэтыкі, патрабаванняў. Ён існуе ў жывой, трапяткой атмасферы — сцэна і зала абменьваюцца мноствам нябачных імпульсаў, — якія няздольны ўлавіць і адлюстраваць нават самы дасканалы тэхнічны апарат. А без усяго гэтага нашым нашчадкам многае можа падацца ў іншым святле і, хто ведае, тыя моманты, імгненні ў пастаноўцы, якія выклікалі ў сучаснікаў вялікае ўзрушэнне, слёзы, уявяцца смешнымі ці ўвогуле незразумелымі. Тут патрэбны відавочца жывых падзей, яго аўтарытэтнае сведчанне.

Выконвае гэтую сваю місію крытыка? Калі і выконвае, то зусім у нязначнай меры. А ў цэлым і па сур'ёзнаму рахунку — не выконвае. Каб пераканацца ў гэтым — дастаткова зазірнуць хоць бы ў наша недалёкае тэатральнае мінулае, у той перыяд, што яшчэ ў памяці людзей старэйшага пакалення. I параўнаць: што ў рэальнасці дзеялася на сцэнічных падмостках і што і ў якой меры засталося ад гэтага ў крытыцы. Папярэдне трэба зрабіць агаворку — далёка не ўсё і заслугоўвае таго, каб застацца ў аналах гісторыі. Але і пры строгай карэкціроўцы агульная карціна выйдзе даволі-такі жахлівай.

У памяці паўстануць параўнальна нядаўнія курганы, своеасаблівыя брацкія могільнікі, да таго ж і безыменныя, дзе беззваротна спачыла мастацтва, якое светачам азарала сваіх сучаснікаў, вопыт і дасягненні якога павінны былі б наследавацца наступнікамі.

ШТО Ж МУСІЦЬ рабіць крытыка? Калі пачынаць з самага простага і элементарнага - фіксаваць, сведчыць пра тое, чым жыве, дыхае сцэна. Калі апісальніцтва, скажам, у літаратурнай крытыцы ці ў крытыцы па выяўленчым мастацтве блага, бо навошта мне чытаць пераказ, калі я магу пазнаёміцца з самім творам ці паглядзець карціну, ва ўсялякім разе, яе рэпрадукцыю, то ў тэатральнай справе — зусім іншая рэч. Нават прымітыўнае апісанне так званых фізічных дзеянняў персанажа на падмостках (устаў, паволі прайшоўся, зірнуў спадылба, прыпыніўся і г. д.) можа сёе-тое ўжо значыць, нават мець тэатразнаўчую каштоўнасць.

Але гаворка не аб элементарна простых задачах і мэтах, а аб прафесійнай здольнасці.

Літаратар стварае п'есу.

Калектыў тэатра ўвасабляе яе на падмостках ці, карыстаючыся іншым тэрмінам, — перастварае, надаючы словам, думкам, вобразам жывую плоць і кроў.

Крытык жа, у сваю чаргу, уласнымі прафесійнымі сродкамі павінен перастварыць жывы спектакль, каб зрабіць яго здабыткам чытачоў. На шляху апошняга — мноства праблем. Спынюся толькі на некаторых з іх, у большасці сваёй, як падаецца, нявырашаных. I перш-наперш аб саміх прафесійных сродках.

Возьмем акцёра, які творыць сцэнічны вобраз. Ён выкарыстоўвае рухі, жэсты, міміку, голас, і г. д. — увесь арсенал выразнасці свайго фізічнага і духоўнага апарату. У крытыка ж, які павінен і пра ўсё гэта, і пра работу рэжысёра, сцэнографа расказаць чытачам, ёсць толькі адзіны сродак — слова. Як, дарэчы, і ў пісьменніка. Але калі творчы арсенал апошняга як бы сам сабой зразумелы і вядомы, і пісьменнік усё жыццё працуе не толькі са словам, а і над словам, над сваім прафесійным удасканаленнем, то наш тэатральны крытык пра гэта зусім не клапоціцца. Такое ўражанне, што і ўвогуле не задумваецца.

Не кажу ўжо пра беларускае слова. У нашым амаль спрэс дэнацыяналізаваным тэатральным мастацтве (гэта тэма асобнай гаворкі) аналагічная хвароба крытыкі асабліва відавочная. Дзе ўжо ведаць жывую мову народа і вольна карыстацца яе багаццямі, што так натуральна было б у прафесіі крытыка. Тут хоць бы ўмець звязаць колькі слоў. Крытык вельмі часта піша горш за найгоршага пісьменніка, і гэта, як ні дзіка, прымаецца, нават лічыцца нармалёвай з'явай. Мы справядліва абураемся, што тэатральнага крытыка літаратары, як правіла, не прымаюць у свае шэрагі, не лічаць за пісьменніка. Гэта ў прынцыпе неаб'ектыўна. Але ж сама рэальнасць — пакуль на іх баку.

У мінулыя гады, калі мастацкія творы перш-наперш ацэньваліся па ідэйнасці, важнасці тэмы, калі пераважала менавіта ацэначная крытыка, найчасцей абыходзіліся самымі банальнымі азначэннямі, накшталт: пераканаўчы ці не пераканаўчы, аптымістычны ці песімістычны, смела, упэўнена, аддана, пераможна і г. д., і да т. п. Набор такіх выразаў быў увогуле небагаты, а самі азначэнні настолькі сцёртыя, што нічога і ні пра што не гаварылі, але для нашай учарашняй нарматыўнай крытыкі, якая выносіла прысуд у лепшым выпадку па школьнай пяцібальнай шкале, а то і ўвогуле па схеме справаздачных сходаў («здавальняюча» ці «нездавальняюча»), быў не толькі прыдатны, а і дастатковы.

Цяпер жа, калі павяртаемся да вызначэння эстэтычнай вартасці твора, яго духоўнай каштоўнасці, цана вось такім ці падобным характарыстыкам зусім нязначная, іх каэфіцыент карыснага дзеяння надзвычай невысокі.

Перастваараючы спектакль, крытык мусіць — іншага выбару, здаецца, няма — жывапісаць яго словам. Як бы маляваць карціну. I тут на шляху паўстае другая, на сённяшніх рэаліях непераадольная цяжкасць. Да прыкладу, пісьменніка з плошчай ніхто не лімітуе, іншая справа — дзе будзе друкаваць сваю рэч: у газеце, часопісе ці ў выдавецтве. Крытыка ж амаль увесь час жорстка абмяжоўваюць — скажам, трыма-чатырма старонкамі ў газеце. I гэта пра спектакль, над якім працавала вялікая колькасць творцаў і які ідзе на падмостках не адну гадзіну! Тут ужо не да аб'ёмнай карціны, перадаць бы хоць асобныя фарбы, мазкі, дэталі. Але ўсё адно яны павінны быць, бо і ў гэтым выпадку канкрэтыка мае сэнс і значэнне, а агульшчына іх не мае, застаецца толькі агульшчынай.

Гаворачы пра тэатразнаўчае ці крытычнае перастварэнне спектакля або асобнай ролі ці аднаго эпізода, нейкага імгнення, аўтар «жывапісам слова» здольны данесці да чытачоў і настраёвасць у глядзельнай зале і на падмостках, і эмацыянальны напал, увогуле перадаць саму танальнасць пастаноўкі, яе рытміку. I ў гэтай сувязі колькі слоў пра густы, мастакоўскія схільнасці, не кажучы ўжо пра эрудыцыю, высокую культуру самога крытыка. Прынята сцвярджаць, пра што з прычыны і без прычыны шмат разоў нагадваецца і паўтараецца, што крытык павінен пісаць ці гаварыць пра тую або іншую тэатральную з'яву аб'ектыўна. З гэтым няма падстаў спрачацца ці не пагаджацца. Бяда, аднак, у тым, што паняцце аб'ектыўнасці ў нас разумеецца надзвычай вузка, каб не сказаць вульгарна. А менавіта, як нешта бясстрасна халоднае. Маўляў, аб'ектыўны крытык глядзіць на тэатральныя падзеі як бы збоку і спакойна, з цвярозым разлікам іх рэгіструе.

А між тым ён таксама жывы чалавек, якому ўласціва хвалявацца, перажываць, узрушацца, штосьці не прымаць, любіць, ненавідзець і г. д. У крытыка, як і ў іншага тэатральнага творцы, і тэмперамент, і эмоцыі, дадатныя і адмоўныя... I будзе вельмі блага, калі чытач не адчувае ўсяго гэтага.

Іншая справа, што ад крытыка, як, дарэчы, і ад кожнага чалавека, патрабуецца сумленнасць. Не паблажлівасць для блізкіх табе людзей у мастацтве, не крытыканства ў адрас нялюбых, а якраз тое, што думаеш, як адчуваеш, разумееш. Зрэшты, прыкладаў яўнай несумленнасці ў нас і не так шмат. Затое падазронасць у несумленнасці крытыкі з боку тэатраў (ну, вядома ж, у тых выпадках, калі выказваюцпа непрыемныя рэчы або прыемныя, але для канкурэнтаў) на сённяшні дзень пакуль амаль усеагульная. У гэтым плане за доўгія гады назапасілася нямала бураломy, утварыліся вялікія завалы, якія трэба неадкладна і рашуча расчышчаць. З тым, каб не толькі рушыць крытыку і калектыву тэатра адзін аднаму насустрач, а і весці рэй разам, працаваць агульнымі высілкамі.

А дзялянкі, вядома, у кожнага свае, і кожны апрацоўвае іх таксама па-свойму. Маю на ўвазе, што крытык, як і ўсе іншыя творцы тэатра, мае права на ўласную індывідуальнасць. І як, скажам, акцёр — тут маецца на ўвазе яркі, самабытны талент, — прапускаючы драматургічны вобраз праз сябе, надае яму ўласныя рысы, так і крытык, пераствараючы спектакль, паказвае яго ў асабістым успрыманні. І натуральна, што ў аднаго ён выйдзе адным, а ў другога — у нечым іншым, тут мастакоўская, ды і выключна чалавечая суб'ектыўнасць не перашкода і не загана. А ўжо права чытачоў меркаваць, хто піша пераканаўча, а хто і не вельмі, каму з аўтараў давяраць поўнасцю, а каму і не зусім, з кім можна і паспрачацца. Што ж тычыцца будучых гісторыкаў тэатра, то ў іх таксама будзе выбар, магчымасць для супастаўленняў, аналізу прычын, адным словам, матэрыял для даследавання.

Але каб усё гэта было, трэба, як мінімум, каб была сама крытыка, ды і выконвала свае прафесійныя абавязкі. Тут пакуль шмат праблем, аб'ектыўных і суб'ектыўных, ад нас залежных і незалежных. Асабліва, калі гаварыць пра індывідуальнасць крытыка, пра яго асобу як творцы. Мы, здаецца, і самі ўжо добра ўпадабалі быць бясстрасна аб'ектыўнымі, памяркоўна-паблажлівымі, а па сутнасці сярэдненькімі, шэранькімі.

Праўда, сяды-тады з'яўляюцца аўтары якраз з прэтэнзіямі на сцверджанне сябе як асобы, сваёй непаўторнай індывідуальнасці, так бы мовіць явачным парадкам. Для іх той ці іншы мастакоўскі твор — толькі пляцоўка для пабудовы ўласных надуманых канцэпцый і версій, нярэдка знарок ускладнёных, галаваломных, і таму такіх жа рацыянальна халодных, як і так званая ўзважана аб'ектыўная крытыка. Як гаворыцца, два бакі аднаго медаля.

Практыка нядаўняга часу, асабліва ў галіне рэжысуры, засведчыла, што колькі б ні самавыяўляліся і ні самасцвярджаліся пастаноўшчыкі, творчыя набыткі выходзяць мізэрнымі, калі няма ў спектаклях глыбіннага, па-сапраўднаму мастакоўскага бачання і асэнсавання з'яў і праблем. І ўсё становіцца на сваё месца — ёсць талент ці няма, здолеў стаць мастаком ці не здолеў.

Так і ў дачыненні да крытыкі. Колькі б мы амбіцыёзна ні дэкларавалі, што таксама з'яўляемся творцамі спектакля, ніхто такія заявы напавер ці авансам не прыме. Гэта трэба даказваць толькі справай. Пастаяннай і карыснай.

# НЕАБХОДНЫЯ ТЛУМАЧЭННІ

## Да выхаду ў свет навучальнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі: XX ст.» для 10—11 класаў сярэдняй школы

Выкладчыкі гісторыі, вядома, самі вызначаць якасці новага навучальнага дапаможніка, яго вартасці і недахопы, тое новае ў змесце, што канцэптуальна адрознівае дадзеную кнігу ад адпаведных раздзелаў падручніка пад рэдакцыяй Л. С. Абэцэдарскага. Тым не менш, мы, аўтары дапаможніка, усведамляем неабходнасць пэўных тлумачэнняў са свайго боку адносна яго зместу.

У цэлым, на наш погляд, дадзенае выданне можна ацаніць як першы крок у пераасэнсаванні гісторыі Беларусі XX стагоддзя ў вучэбнай літаратуры, аб чым сціпла, але дастаткова выразна сказана ў прадмове «Ад аўтараў». Аднак гэтай канстатацыяй абмежавацца нельга. Мы павінны сказаць, што ў змесце некаторых раздзелаў па асобных пытаннях захаваліся ўстарэлыя падыходы і ацэнкі з арсенала прабальшавіцкай гістарыяграфіі. Гэта найперш датычыць асвятлення падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, утварэння БССР і СССР, будаўніцтва сацыялізму ў міжваенны перыяд. Узнікае прынцыповае пытанне, чаму так здарылася. Галоўная прычына ў тым, што рукапіс па савецкім перыядзе быў напісаны і адрэдагаваны да жнівеньскіх падзей 1991 года, г. зн. ва ўмовах, калі ў рэспубліцы фактычна захоўвалася ўсеўладдзе вярхоў КПБ. Пазнейшыя кардынальныя змены ў палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы не толькі адкрылі магчымасць, але і патрабавалі новага асвятлення многіх пытанняў гісторыі і ў першую чаргу — перапрацоўкі тэкстаў V—X раздзелаў. Аптымальным было б рашэнне адтэрмінаваць на некалькі месяцаў выданне кнігі і за гэты час унесці неабходныя змены. Аднак ні аўтары, ні выдавецтва, ні Міністэрства адукацыі не пайшлі на гэта, зыходзячы з таго, што трэба тэрмінова — да пачатку 1992 года даць школе новы падручнік, хай сабе і з пэўнымі недахопамі. Разлічвалі і на тое, што найбольш істотныя папраўкі можна будзе ўнесці ў гранкі. Такім чынам 4 лістапада 1991 года рукапіс быў здадзены ў набор. Але вытворча-выдавецкі працэс ва ўмовах гаспадарчага бязладдзя істотна замарудзіўся і рукапіс быў падпісаны да друку толькі 18 сакавіка 1992 года, а кніга выйшла ў свет ажно ў ліпені бягучага года. Пэўныя аўтарскія праўкі ў гранках былі ўлічаны, але яны істотна не змянілі становішча.

Тым часам з удзелам аўтараў дапаможніка былі складзены і выдадзены новыя праграмы па курсе гісторыі Беларусі на 1992—93 навучальны год. Абноўлены змест праграмы па перыядзе 1917—1945 гадоў разыходзіцца з тэкстам адпаведных раздзелаў дапаможніка. Так, пры азнаямленні з падзеямі 1917 года ў чытача застаецца ўражанне, што рэвалюцыйны шлях быў адзіна магчымы і характэрны для краіны ў цэлым, так і для Беларусі, што бальшавікі ўсведамлялі яго неабходнасць, дзейнічалі ў адпаведнасці з ёю, у інтарэсах асноўнай масы насельніцтва, а нацыянальны дэмакратычны рух не меў дастатковай апоры ў масах і быў асуджаны на паражэнне. Такое ўяўленне — вынік маністычнага погляду на гісторыю, які выключае якую б там ні было альтэрнатыву. Таму трэба прытрымлівацца новай праграмы, у якой дадзены іншыя фармулёўкі раздзела і параграфаў, абазначаюцца альтэрнатыўныя меркаванні пра кастрычніцкія падзеі ў рэгіёне і інш. Тэзіс аб тым, што на Беларусі мела месца чыста пралетарская рэвалюцыя, з'яўляецца неабгрунтаваным. Рэвалюцыйныя падзеі адлюстроўваюць толькі ўдалую спробу бальшавікоў, якія фактычна праігнаравалі Марксава палажэнне аб неабходнасці дастатковых аб'ектыўных умоў для перамогі пралетарскай рэвалюцыі, але выкарысталі ў сваіх мэтах дэмагагічную агітацыю па пытаннях вайны і міру, хлеба і свабоды ў здзяйсненні кастрычніцкага перавароту, які ўкінуў краіну ў бездань грамадзянскай вайны і дыктату партыі. У выніку выключалася альтэрнатыўная магчымасць развіцця Беларусі па нацыянальна - дэмакратычным шляху.

Асвятляемыя падзеі па пытаннях стварэння беларускай дзяржаўнасці даюць падставу лічыць, што ў гісторыі беларускага народа ўтварэнне БССР з'явілася заканамерным вынікам яго барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, што архітэктарамі і будаўнікамі новай дзяржаўнасці былі бальшавікі. Пры гэтым фактычна ўтоенай аказалася тая акалічнасць, што абвяшчэнне БССР было ў немалой ступені рэакцыяй бальшавікоў у адказ на рашэнне Беларускага кангрэса аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Творцы БССР былі далёка не аднадушныя нават у такім — савецкім — вырашэнні нацыянальнай праблемы. Многія з іх, немясцовыя ўраджэнцы, да таго ж ахопленыя ідэяй сусветнай рэвалюцыі (Аблвыканкамзах), выступалі супраць нацыянальнай дзяржаўнасці наогул і беларускай у прыватнасці. Вымушаныя адступіць, яны не адмовіліся ад ідэі стварэння ў будучым адзінай наднацыянальнай супольнасці, што вяло да адмаўлення духу і культуры, уласна беларускай самасвядомасці. Неадназначным засталося і тое, цяпер бясспрэчнае, палажэнне, што вайна Савецкай Расіі з Польшчай была таксама авантурнай спробай бальшавікоў рэалізаваць на практыцы, прычым пры дапамозе ўзброенай сілы, ідэю сусветнай рэвалюцыі. Тое ж самае можна сказаць і ў адносінах тэзіса пра імкненне працоўных Беларусі да самага цеснага саюза з іншымі савецкімі народамі былой царскай Расіі. Рух за ўтварэнне Саюза ССР, які яшчэ больш абмяжоўваў суверэнітэт нацыянальна-дзяржаўных фарміраванняў, у т. л. БССР, фактычна насаджаўся зверху.

Па перыядзе 20-х гадоў трэба мець на ўвазе, што так званы «палітычны бандытызм» на Беларусі ўяўляў сабой пераважна сялянскі, паўстанцкі рух — адкрыты пратэст супраць аграрнай палітыкі бальшавікоў. Ён жорстка падаўляўся з выкарыстаннем часцей асобага прызначэння («чонаўцаў»), якія складаліся з камуністаў і камсамольцаў. «Узбуйненне» БССР у 1924—1926 гадах трэба ацэньваць як вяртанне БССР часткі ўсходнебеларускіх зямель, аднятых адвольным рашэннем Масквы ў 1919 годзе. Перабудова грамадска-палітычнага жыцця ў першай палове 20-х гадоў з'яўлялася абмежаванай і кароткачасовай дэмакратызацыяй ваенна-камуністычнага рэжыму, што было звязана з пераходам да новай эканамічнай палітыкі.

Назва раздзела «Будаўніцтва сацыялізму ва ўмовах аўтарытарна-таталітарнага рэжыму» мае патрэбу ва ўдакладненні. Больш правільна яго назваць «Будаўніцтва «казарменнага» сацыялізму (канец 20-х—30-я гады)». У параграфе аб гвалтоўнай калектывізацыі трэба выключыць пытанне аб неабходнасці кааперавання сялянскіх падвор'яў як надуманае, бо яе аб'ектыўна не існавала. «Культурная рэвалюцыя» ў сапраўднасці ўяўляла сабой жорсткую барацьбу за ўсталяванне так званай «сацыялістычнай культуры» з мэтай выхавання чалавека паслухмянага і адданага новаму рэжыму.

«Вызваленне» Заходняй Беларусі на справе было яе пераходам з-пад польскай тыраніі таго часу пад тыранію сталіншчыны. Таму лепш ужываць тэрмін «уступленне» савецкіх войск у Заходнюю Беларусь. А «ўсенародную» барацьбу супраць фашысцкіх захопнікаў больш правільна называць «народнай» барацьбой. Разам з тым неабходна правільна ўлічваць, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў сапраўднасці мела месца і прыцягненне да супрацоўніцтва з акупантамі ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху, і дзейнасць калабарацыяністаў, і яўрэйскае супраціўленне гітлераўцам, і інш. Больш сучасны варыянт гэтага раздзела (з улікам паправак) дала ў першым паўгоддзі 1991—92 навучальнага года «Настаўніцкая газета», якая друкавала ў скарачэнні асобныя раздзелы дадзенага навучальнага дапаможніка.

Назва раздзела XV «БССР на этапе перабудовы» — умоўная, паколькі яго месца ў гісторыі пакуль не вызначылася. У раздзеле многія падзеі асвятляліся як бягучыя, якія не атрымалі свайго завяршэння. Аднак за час праходжання дапаможніка праз выдавецтва ў жыцці грамадства адбыліся істотныя змены. Гэта датычыцца ў першую чаргу КПБ. Спробы, якія рабіліся, каб ператварыць яе ў палітычную партыю парламенцкага тыпу, аб чым гаворыцца ў дапаможніку, як пазней высветлілася, насілі фармальны характар. На справе вялася работа па вяртанні партыяй страчаных пазіцый, што прывяло да спынення яе дзейнасці.

Праўкі, якія адпавядалі вышэйадзначаным зменам і ўдакладненням, былі зроблены аўтарамі ў карэктуры, але не рэалізаваны ў дапаможніку пры яго выхадзе ў свет. Між тым яны маюць, на наш погляд, прынцыповы характар і павінны, разам з новымі дасягненнямі гістарычнай навукі ў даследаванні гісторыі Беларусі, улічвацца настаўнікамі гісторыі.

Завяршаецца работа над стварэннем у адпаведнасці з прынятай для пераходнага перыяду канцэпцыяй выкладання гісторыі Беларусі ў школах рэспублікі базавай Праграмы па гісторыі Беларусі для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Гэтая акалічнасць, а таксама неабходнасць унясення паправак і дадаткаў у навучальны дапаможнік, які выйшаў, абавязвае аўтараў і выдавецтва «Народная асвета» падрыхтаваць і апублікаваць да пачатку 1993—94 навучальнага года 2-е, перапрацаванае і дапоўненае выданне «Гісторыі Беларусі: XX стагоддзе» для сярэдняй школы рэспублікі. Аўтары і выдавецтва «Народная асвета» з удзячнасцю прымуць усе канструктыўныя заўвагі і прапановы, выказаныя на адрас дапаможніка.

**М. БІЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар,**
**У. СІДАРЦОЎ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар,**
**В. ФАМІН,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

**КАМЕНТАРЫЙ АДДЗЕЛА ПУБЛІЦЫСТЫКІ**

**Калі чытаеш «Неабходныя тлумачэнні» аўтараў навучальнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі: XX ст.», якія яны прапанавалі «ЛіМу», міжволі на памяць прыходзяць іранічныя словы Д. Оруэла: самае непрадказальнае — гэта мінулае. Нібы сказана пра нашу гістарыяграфію, прадстаўнікамі якой з'яўляюцца паважаныя аўтары нагаданага дапаможніка, гісторыкі з доктарскімі ступенямі і прафесарскімі званнямі.**

**Можна, вядома, памыляцца ў сваіх поглядах, але шлях ачышчэння не можа быць лёгкім, не выпакутаваным. А тут з лёгкасцю незвычайнай, у імгненне вока вучоныя пераасэнсоўваюць цэлы гістарычны пласт жыцця рэспублікі, тлумачачы гэта тым, што першы варыянт дапаможніка яны пісалі да жнівеньскіх падзей мінулага года, а цяперашні — пасля яго, калі, гаворачы вуснамі аднаго з герояў аперэты «Вяселле ў Малінаўцы», «власть переменилась».**

**Гістарычная праца гэта разлічана, як пішуць яе аўтары, на вучняў 10—11 класаў сярэдняй школы, г. зн. на 16—17-гадовых юнакоў, у якіх ужо добра развіта самастойнае мысленне, якія вызначаюцца абвостраным успрыманнем маны і хлусні. Як думаюць растлумачыць ім паважаныя гісторыкі гэты свой кульбіт? Ці спадзяюцца, што яны праглынуць, не заўважыўшы? Дарэмнае спадзяванне.**

**МУЗЫКА**

# Рэха грэчаскай вандроўкі

**Першае выступленне ДАВТа Беларусі на Міжнародным фестывалі ў Грэцыі мела поспех. Прынамсі, у лісце, адрасаваным дырэктару тэатра, мастацкаму кіраўніку Беларускай оперы С. Картэсу, гаворыцца: «Дарагі містэр менеджэр! Муніцыпалітэт горада Патры (Грэцыя) хацеў бы выказаць захапленне Вам асабіста, Беларускаму тэатру і найглыбокую ўдзячнасць за магчымасць чуць і бачыць на нашым фестывалі цудоўную музыку ў выкананні вашага тэатра й адметны спектакль Меноцці «Медыум». Вялікая праца, якую шчыра, з захапленнем ацанілі меламаны Патры, ацанілі ўсіх удзельнікаў спектакля — салістаў, аркестр, цудоўнага кіраўніка маэстра Мікалая Калядку. Мы вельмі ўдзячныя нашай агульнай працы з Вамі, містэр менеджэр, і выказваем ўдзячнасць усяму калектыву тэатра Беларусі, які быў гэтак бліскуча прадстаўлены ўдзельнікамі «Медыума» Меноцці. З найлепшымі пажаданнямі і надзеяй на далейшае артыстычнае супрацоўніцтва. Старшыня культурнага дэпартамента муніцыпалітэта Патры О. Скалтас».**

**А ў рэцэнзіі, якую змясціла тамтэйшая газета «Та Гегопота» пад загалоўкам «Уражлівы паказ оперы «Меноцці», адзначаецца: «Вялікае ўражанне зрабіў на гледачоў Патры паказ оперы сучаснага італа-амерыканскага кампазітара Джан Карла Меноцці «Медыум», які на еўрапейскім узроўні прадставіла оперная трупа ды сімфанічны аркестр Беларускага тэатра оперы і балета... Галоўная асоба гэтага спектакля, мадам Флора — Вольга Цішына (меццасапрана), якая ўразіла гледачоў не толькі сваім голасам, але і сваім яркім драматычным дарам... Адзначым не толькі выдатную драматычную ігру артыстаў (рэжысёр С. Штэйн), а і высокі ўзровень музычнага выканання «Медыума» аркестрам пад дынамічным кіраваннем маэстра Мікалая Калядкі. У першым аддзяленні гэтага вечара музыканты Беларускай оперы супрацоўнічалі з аркестрам «Салісты Патры» ў знаным «Эгманце» Бетховена пад кіраўніцтвам Дзімітрыса Баціміса... Вельмі важна адзначыць, што гэта было першае і паспяховае выступленне Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі на Міжнародным фестывалі ў Патры».**

**Я. КАРЛІМА.**

перадаў размову з Барысевічам Георгію Іванавічу. Той адразу загарэўся, бо таксама даўно цікавіўся гэтай раслінай і ведаў пра яе, здаецца, усё, што можна даведацца са спецыяльнай літаратуры. Паехаў да Барысевіча, які пазычыў «да першага ўраджаю» адзін кілаграм насення і 1300 каліў расады жэньшэню. З гэтага, можна сказаць, і пачалася саўгасная плантацыя «кораня жыцця».

Потым была паездка ў саўгас «Жэньшэнь» Усурыйскага раёна Прыморскага краю, дзе, па словах Віяленція, яго вельмі добра прынялі, пазнаёмілі з агратэхнікай і методыкай вырошчвання «кораня жыцця». Мясцовая доследная станцыя лекавых раслін прадала пасланцу з далёкай Беларусі 20 кілаграмаў насення і 100 тысяч каліў расады. Каштоўны гэты груз Георгій Іванавіч адправіў самалётам на радзіму.

У 1987 годзе ў саўгасе заклалі сапраўдную прамысловую плантацыю «кораня жыцця». Многа дапамагала жонка, якая таксама прыахвоцілася да гэтай справы. Рабілася ўсё, як кажуць, метадам спроб і памылак. Вопыту ж ніякага, а жэньшэнь — культура надзвычай пераборлівая і да складу глебы, і да тэмпературы паветра, хварэе сваімі спецыфічнымі хваробамі.

Суцяшала, што на мясцовых глебах, у беларускім клімаце жэньшэнь пачувае сябе не горш, чым на радзіме. Прынамсі, лепш, чым на Паўночным Каўказе. Тут трэба зрабіць адно невялікае ўдакладненне — вядомы жэньшэнявод Аляксей Аляксандравіч Малышаў у пошуках найбольш спрыяльных для вырошчвання «кораня жыцця» мясцін у еўрапейскай частцы СССР пабываў шмат дзе і спыніў свой выбар на Паўночным Каўказе ў раёне Цебярды, дзе заснаваў апорны пункт жэньшэню. І трэба сказаць, выбар гэты аказаўся не вельмі ўдалы. Корань там расце дрэнна...

Выспявае жэньшэнь праз пяць гадоў. Летась былі сабраны першыя паўтоны сухіх каранёў. Сёлета мяркуюць накапаць іх дзве — дзве з паловай тоны, ды сабраць паўтоны насення. Здавалася, трэба радавацца — складанейшы эксперымент, якому аддадзена столькі сілы і часу, даў плён. Але чаму Георгій Іванавіч гаворыць пра гэта са скрухай? А таму, што ўзнікла праблема, якой рады знайсці цяжка. Жэньшэнь, які Віяленці ўзяўся вырошчваць у надзеі забяспечыць ім заражаныя чарнобыльскай радыяцыяй вобласці Беларусі (вядома, што ён добра выводзіць з арганізма цэзій і стронцый), аказаўся нікому непатрэбным. Дарэчы, у жэньшэня маюць лекавыя ўласцівасці не толькі корань, але і лісце, і ягады. З лісця робяць адвар для ваннаў, а ягады, а калі больш дакладна, мязга, якая застаецца пасля выдалення семак, з'яўляецца вельмі эфектыўным сродкам пры лячэнні апёкаў і іншых хвароб. «У гэтым мы ўпэўніліся самі,— расказвае Георгій Іванавіч,— так сказаць, на ўласным вопыце. Адна з нашых працаўніц, якая незнарок выліла на сябе кіпень, уратавалася толькі дзякуючы кампрэсам з жэньшэневай ягаднай мязгі,— раны загаіліся літаральна праз некалькі дзён. Званю ў рэспубліканскі апёкавы цэнтр, расказваю пра гэты выпадак, прапаную — прыязджайце, паглядзіце, вазьміце бясплатна той мязгі, паспрабуйце ў сябе». «Не,— адказваюць, — у нас няма такой інструкцыі, каб прымяняць гэты прэпарат». «Добра,— кажу, — дык вы хоць паэксперыментуйце на падвопытным пацуку». «А гэта,— кажуць,— у нашыя абавязкі не ўваходзіць». Пазваніў і ў Аксакаўшчыну, дзе лечаць дзяцей з радыеактыўнай зоны, прапаную бясплатна ўзяць у нас сухога карэння жэньшэню і настойкі з яго. У адказ — нуль увагі. І там ніхто не паварушыўся...»

Адным словам, спажыўца на вырашчаны ў саўгасе «корань жыцця» няма. Спрабавалі стукацца ў дзверы Барысаўскай фармацэўтычнай фабрыкі, ды дарэмна. Прыняць жэньшэнь адмовіліся таму, што быццам бы аптэкі яго не бяруць.

Дарэчы, летась у саўгас прыязджаў сам Старшыня Саўміна рэспублікі В. Кебіч, які, агледзеўшы жэньшэнарый, не мог схаваць свайго захаплення і даў слова дапамагчы з пашырэннем плантацыі і рэалізацыяй каштоўнейшага лекавага сродку. Ды, відаць, за тлумам паўсядзённых клопатаў забыўся пра сваё абяцанне. Адным словам, як і куды збыць свой жэньшэнь, саўгас дасюль не ведае.

Была ў мяне гаворка на гэтую тэму з намеснікам міністра аховы здароўя Беларусі Аркадзем Тамашовым, які, дарэчы, таксама ў свой час наведаў гэты жэньшэнарый. Нічога канкрэтнага Аркадзь Канстанцінавіч мне сказаць не мог. Цяжкасці са збытам «кораня жыцця» ён тлумачыць перанасычанасцю ім беларускага рынку. Аказваецца, яго завозяць сюды з іншых рэгіёнаў былога СССР.

Пасля гэтай гаворкі я абзваніў некалькі аптэк. Сапраўды, там ёсць у продажы спіртавая настойка жэньшэню. Пацікавіўся, хто вытворца? Чую адказ: «На ўпакоўцы пазначаны горад Ліўны на Украіне».

«Я падазраю,— кажа Віяленці,— што, мяркуючы па цане настойкі, яна зроблена не з натуральнага кораня жэньшэню, а з так званай біямасы, якую вырошчваюць у прабірках на яго аснове. Ад самога лекавага кораня там мала чаго застаецца. Скажу болей, сам чуў з вуснаў прафесара Пяцігорскага фармацэўтычнага інстытута Мураўёвай, што гэтая так званая біямаса наогул шкодная для здароўя і можа ўжывацца толькі ў парфумерыі».

Дарэчы, спіртавую настойку з карэнняў жэньшэню робяць на «Мінскай гародніннай фабрыцы» ў спецыяльна абсталяваным цэху, які абслугоўвае вопытны фармаколаг, але свая прадукцыя прызначана толькі для ўласных рабочых.

«Кітайцы робяць з жэньшэню дзесяткі самых розных каштоўнейшых прэпаратаў,— расказвае Георгій Іванавіч.— Наша ж фармакалогія ведае толькі спіртавую настойку «кораня жыцця». У Кітаі, калі я там быў, мне гаварылі, што ў 70-градуснай спіртавой настойцы жэньшэнь напалову губляе свае лекавыя якасці, і наогул, гэта самы прымітыўны спосаб яго выкарыстання».

Я кажу Віяленцію, што бачыў у камерцыйных крамках прыгожыя бутэлечкі з настойкай жэньшэню, здаецца, імпартнага паходжання. Мой субяседнік усміхаецца: «З гэтым «імпартным» жэньшэнем трэба быць асцярожным. Гэта, фактычна, сурагат з мінімальнай колькасцю пажыўных рэчываў, якімі адметны жэньшэнь. Прадаюць яго ў трыдарага. Людзі спажываюць і, не адчуўшы аніякай палёгкі, пачынаюць думаць — няма з таго жэньшэню ніякай карысці».

Цяжкае, аказваецца, жыццё ў «кораня жыцця». Хто дапаможа?

**Міхась ЗАМСКІ.**

---

**Ю. З. Дзяржава, такім чынам, не можа быць надзейнай апорай Адраджэння — прынамсі, пакуль што не можа. Якія ж апоры тады застаюцца ў культуры?**

**М. К.** Калісьці Антэй у крытычныя моманты свайго жыцця заўсёды кранаўся маці-Зямлі, і яна давала яму новую сілу. Так трэба рабіць і нам. У нас застаецца, па сутнасці, тры апоры ў справе адраджэння нацыянальнай культуры: Захад і ўвогуле іншыя краіны — хісткае апірышча, вартае пераймання хіба што ў сферы навукі і тэхналогіі; наша ўласная гісторыя, якой нас амаль зусім пазбавілі, ператварыўшы ў айтматаўскіх манкуртаў,— веданне сваёй гісторыі ёсць асновай нацыянальнай самасвядомасці; трэцяя апора—вёска, з яе бытам, фальклорам, рамёствамі і дыялектамі. Так склаўся гістарычны лёс беларускай культуры, што яна заўсёды была цесна звязана з вёскай. Вёска заставалася ашчадніцай нацыянальнай культуры і пасля заняпаду залатога веку Вялікага княства Літоўскага, і пад імперска-расійскім панаваннем — як у XIX стагоддзі, гэтак і пры саветах. Падобны анабіёз, дарэчы, не толькі тармазіў развіццё беларускай культуры, «закансерваванай» на вёсцы, але садзейнічаў і захаванню яе цэласнасці і гарманічнасці, няхай сабе і на этнаграфічным узроўні. Такой яна ачнулася з анабіёзу ў часы другога Адраджэння ў творах Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Лучыны і асабліва яскрава — у творах Купалы, Коласа і Багдановіча. Ачнулася жывой і цэласнай культурай! Героі Коласа з паэмы «Новая зямля» па-гамераўску эпічныя і класічныя, у іх захавалася амаль што антычная гармонія, якой даўно ўжо няма ні на Захадзе, ні на Усходзе. Дзядзька Антось — класічны вобраз беларуса, у якім найпаўней выяўляюцца беларускі характар і ментальнасць у іх злітнасці і нерасколатасці.

За семдзесят год бальшавізму беларуская вёска падпала пад дэфармацыі, але вясковыя карані засталіся. З гэтых каранёў нам належыць выгадаваць дрэва адроджанай культуры. У эстэтычным сэнсе гэтае дрэва абяцае быць прыгожым, бо вясковыя сокі ў ім самыя здаровыя. Якімі б дзівоснымі кветкамі ні вылучалася вяршаліна культурнага дрэва, яго кшталтавана-гарадскія пласты, карані дрэва знаходзяцца ў вёсцы. Вёска павінна разглядацца як аснова эстэтычнай вартасці сучаснай беларускай культуры.

---

# Ян СКРЫГАН

**18 верасня 1992 года пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Ян Скрыган. Беларуская літаратура страціла таленавітага пісьменніка, чалавека шчодрай душы, чыстага, бескампраміснага сумлення.**

**Іван Аляксеевіч Скрыган нарадзіўся 16 лістапада 1905 года ў сялянскай сям'і ў сяле Труханавічы Капыльскага раёна на Міншчыне. Вучыўся ў Слуцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, Беларускім дзяржаўным універсітэце. Працаваў у рэдакцыях слуцкай акруговай газеты «Вясковы будаўнік», «Чырвоная Полаччына», загадваў Народным домам у Расонах. Працяглы час быў супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Далейшы лёс пісьменніка склаўся трагічна —ён быў рэпрэсіраваны і на доўгія гады адарваны ад сваёй роднай Беларусі. Давялося працаваць на прадпрыемствах і будоўлях Сібіры і Узбекістана, галоўным бухгалтарам на сланца-хімічным камбінаце ў Эстоніі.**

**Вярнуўшыся на Радзіму ў 1955 годзе, пісьменнік працаваў рэдактарам мастацкай прозы Дзяржаўнага выдавецтва БССР, рэдактарам аддзела прозы, а потым—намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». На працягу сямі гадоў (1967—1974) загадваў Літаратурна-кантрольнай рэдакцыяй БелСЭ. У 1975 годзе Ян Скрыган быў прызначаны адказным сакратаром Камітэта па дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры і працаваў на гэтай пасадзе да выхаду на пенсію.**

**Літаратурная дзейнасць пісьменніка пачалася ў дваццатыя гады. Ян Скрыган быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Літаратурна-мастацкая камуна». Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1924 годзе на старонках газеты «Вясковы будаўнік». Ён прымаў актыўны ўдзел у калектыўным зборніку «Слуцкія песняры», у альманахах «Наддзвінне», «Росквіт» і «Зарніцы».**

**За сваё творчае жыццё пісьменнік напісаў і выдаў шмат празаічных кніг-нарысаў, апавяданняў, навел, аповесцей, успамінаў: «Шугае сонца», «Недапісаны профіль», «Затока ў Бурах», «Каця Лапянкова», «Сустрэчы», «Апавяданні», «Наталля», «Няпрошаная сляза», «Скажы адно слова», «Свая аповесць», «Кругі», «Ранішнія росы», «Некалькі хвілін чужога жыцця» і іншыя.**

**Шмат зроблена пісьменнікам у галіне перакладу. Ён пераклаў на беларускую мову кнігі і паасобныя творы А. Астроўскага, М. Горкага, І. Буніна, Ф. Гладкова, К. Федзіна, а таксама ўкраінскіх, літоўскіх, латышскіх і эстонскіх пісьменнікаў.**

**Ян Скрыган—вялікі майстар мастацкага слова. Яго творы ўвайшлі ў скарбонку беларускай літаратуры. У іх, пазначаных сапраўдным напалам чалавечых пачуццяў, думак, імкненняў, з мастацкай выразнасцю і пераканальнасцю паказана наша няпростая супярэчлівая рэчаіснасць. Уся творчасць пісьменніка-грамадзяніна прасякнута палымянай любоўю да роднай Беларусі і людзей працы, шчырым клопатам аб адраджэнні нацыянальнай культуры.**

**Творы Яна Скрыгана перакладзены на рускую і іншыя мовы.**

**За самаадданую працу на літаратурнай ніве і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці пісьменнік адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі: медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета рэспублікі. За плённую працу па стварэнні шматтомнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў 1976 годзе яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія.**

**Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, чалавеку высокай маралі і душэўнай дабрыні назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.**

**С. С. ШУШКЕВІЧ, В. Ф. КЕБІЧ, М. І. ДЗЯМЧУК, А. І. БУТЭВІЧ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, П. К. КРАЎЧАНКА, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, Н.С. ГІЛЕВІЧ, П. Е. ПАНЧАНКА, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), І. П. ШАМЯКІН, В. У. АДАМЧЫК, Р. І. БАРАДУЛІН, А. С. ВАСІЛЕВІЧ, А. І. ВЯРЦІНСКІ, М. С. ГІЛЬ (Гілевіч), С. І. ГРАХОЎСКІ, В. М. ГРЫШАНОВІЧ, Г. В. ДАЛІДОВІЧ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, А. А. ЖУК, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, В. А. КАВАЛЕНКА, У. А. КАЛЕСНІК, Ц. В. КРЫСЬКО (Васіль Вітка), А. П. КУДРАВЕЦ, А. А. КАРАТАЙ (Максім Лужанін), Х. А. ЛЯЛЬКО, А. І. МАЛЬДЗІС, П. М. МАКАЛЬ, І. Я. НАВУМЕНКА, У. А. ПАЎЛАЎ, Н. Е. ПАШКЕВІЧ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, І. М. ПТАШНІКАЎ, Б. І. САЧАНКА, В. П. СУПРУНЧУК, І. Д. СІПАКОЎ, М. А. ТКАЧОЎ, В. Ф. ХОМЧАНКА, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ.**

# Развітанне з другам

**У мяне вялікае гора: не стала майго самага вернага і надзейнага друга. Наша літаратура страціла выдатнага майстра прозы, наша мовазнаўства — нястомнага шукальніка скарбаў, гранільшчыка і ювеліра роднага слова. Гэта ён адкрыў і ўзбагаціў мову дакладнымі паэтычнымі азначэннямі — «свідравіна», «радовішча», «лецішча», «любата», «смаката» і сотнямі каларытных перлін нашай лексікі.**

**Памёр нястомны майстра — ЯН СКРЫГАН, Іван Аляксеевіч, ласкавы, гасцінны і шчодры на дабрату, любы Яначка.**

**Нехта скажа: «Дык жа дзякаваць Богу, нямала пажыў». І ніхто не падумае, колькі ж ён адпакутаваў за свой немалы век, а сапраўднага людскага шчасця наўрад ці зведаў калі. На яго цярністых шляхах пераважна былі «Кругі» то меншага, то большага... пекла, ад юнацтва і да апошніх невыносных дзён. Некалі за тое, што ў бацькі хлеб дацягвалі да Вялікадня, сын быў на падазрэнні як «не наш элемент», жыў у чаканні бяды, грукату ў дзверы і грознага загаду «собирайсь!»**

**І ўсё ж талент перамог страх. Спачатку паэт Янка Відук, потым празаік Скрыган заявіў пра сябе адразу, голасна, загаварыў праўдзіва, даверліва і ласкава і заняў прыкметнае месца ў літаратурным шматгалоссі маладнякоўскай пары. Часта друкаваўся ў перыёдыцы, працаваў у толькі што заснаванай газеце «Літаратура і мастацтва».**

**У 30 гады ён жыў напружана і актыўна, — шмат ездзіў па рэспубліцы і па краіне, сябраваў пераважна з паэтамі, бо і сам быў у душы паэт. Шмат працаваў, адна за адною выходзілі яго кнігі. У 1936 годзе «Чорны воран» разам з іншымі літаратарамі ўхапіў Скрыгана на 20 пакутлівых гадоў. Ламалі косці і душу, цягнулі жылы, марылі голадам і холадам, ганялі па Сібіры, потым «дагараў» у бур'янах Ферганскай даліны, зачапіўся ў Эстоніі, але і тут адшукалі «белорусского националиста» і зноў у закратаваным «сталінскім» вагоне «навечна» пагналі ў Сібір дажываць век у зямлянцы сяла Сухабудзіна.**

**На ўсё астатняе жыццё падтрымкаю і апірышчам стала верная, добрая і нязломная Ганна Міхайлаўна, адданая Беларусі масквічка. Зварот на волю быў адзначаны ў 1956 годзе выданнем кнігі апавяданняў і далейшым выхадам яго спавядальных «Кругоў», двухтомнікаў, аповесцей, мемуараў, у якіх да драбніц ажываў кожны варты ўвагі і мастакоўскай памяці Скрыгана чалавек.**

**Усе артыкулы дванаццаці тамоў «Беларускай энцыклапедыі» па некалькі разоў прайшлі праз нястомныя рукі, увагу і сэрца кантрольнага рэдактара Яна Скрыгана.**

**А колькі маладых талентаў ён адкрыў, падтрымаў, сагрэў увагаю і благаславіў у літаратуру!**

**Ён сам, як галернік, прыкуты да стала, пісаў, крэсліў, перапісваў, рваў і ўсё пачынаў нанава. Не адну рэч не перавыдаў, не перапісаўшы. У тамах, падараваных мне, — мноства правак алоўкам. Так ён пісаў сваё, так шліфаваў пераклады, рэдагаваў кнігі сяброў-празаікаў. Для другога выдання твораў яго любімага Буніна ён двойчы перапісваў свой пераклад, а для сябе не хапала часу.**

**Янка Скрыган — ювелір слова, сказа, інтанацыі. У яго творах нічога нельга переставіць ці папраўіць: усё, як уліта ў філігранны жывапіс. Таму за доўгае творчае жыццё ён не паспеў напісаць тоўстых раманаў, надзённых аповесцей, а жыццёвага вопыту выстарчыла б на эпапеі. Ён быў майстрам «Залатой ружы».**

**Для мяне Янка Скрыган — найлепшы дарадца, патрабавальны і добразычлівы крытык, адзіны і апошні друг. Безнадзейна хворы, ён ніколі не скардзіўся і не гаварыў пра сваю бяду, пра блізкае развітанне забываўся ў працы. 18 верасня ў 16 гадзін 35 хвілін не стала выдатнага пісьменніка. Я адразу паехаў у яго дом. Маленькі, худзенькі Янчка ляжаў на канапе. На стале стаяў недапіты кубачак кампоту, былі акуратна раскладзены вострыя алоўкі і самапіскі, яшчэ не астылыя ад творчага гарэння невялічкія і большыя аркушы, спісаныя дробненькім скрыганоўскім почыркам: «Як чалавечая доля», «Нелюдзі», «Памяць». Апошняя дата — 4 верасня. У запасе — чыстыя аркушы, занатоўкі, накіды, асобныя словы. Рукапісы Скрыгана вартыя скрупулёзнага вывучэння даследчыкаў, — школа для кожнага маладога празаіка, як трэба працаваць, граніць, шліфаваць, няньчыць і пеставаць слова і быць бязлітасным да сябе.**

**А да пісьмовага стала прыкручаны маленькія слясарныя цісочкі. Гаспадар быў не толькі майстра прозы, ён — майстра на ўсе рукі, умеў слясарыць і сталярыць, усё рабіў з найвышэйшай адзнакай якасці, ён быў лесаруб, разьбяр і бухгалтар, з любасцю рабіў прыгожыя рамачкі, палічкі, лакіраваныя кіі і шчодра раздаваў іх сябрам.**

**І вось не стала майстра, чалавека з галубінай душою, крыштальным сумленнем. У яго ніколі не было ворагаў, хоць крыўдзілі неаднойчы, а ён змоўчваў і ішоў далей. Не стала майго апошняга і лепшага друга, а дружбе нашай 60 гадоў.**

**Каму цяпер пазваню? Да каго завітаю? Каго запрашу да сябе? Няма каму. Няма каго.**

**Родная зямля на Паўночных могілках прыняла яго на вечны супакой, а ў сэрцах і ў памяці тых, хто хоць раз сустракаўся з ім, застанецца светлы вобраз і ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ. Застануцца ў народа яго словы.**

**За мукі Твае, за цярпенне Тваё, дарагі дружа, наканавана Табе дарога толькі ў Рай, пашана і ўдзячнасць сучаснікаў і наступнікаў.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

